PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 50 (2065) ГОД XL | БЕЛАСТОК 10 СНЕЖНЯ 1995 г. | ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



"Тыневічанкі" святкуюць сваё 15-годдзе.

*Ада Чачуга*

## Усё было, як у вялікім месце

Усё было, як у вялікім месце: прэса, радыё, тэлебачанне ды... „Тыневічанкі", штораз змяняючыя касцюмы. Спярша спявалі ў сваіх першых, пятнаццацігадовых ужо, строях, ды і песні былі тыя, ад якіх пачыналі на першых канцэртах: „Там у полі пры дубочку", „Ой, там у полі, у полі". Пасля паказаліся — першы раз у сваёй вёсцы — у двух камплектах новых касцюмаў, выкананых спецыяльна для калектыву на Беларусі: адзін — у чырвоных адценнях, другі — у зялёных ды яшчэ шэрыя кафтаны. Атрымалі касцюмы вясною, у маі, і ўпершыню выступілі ў іх на Свяце беларускай песні ў Беластоцкім амфітэатры. Потым спявалі ў іх на святкаванні Купалля ў Белавежы, выступалі ў Гайнаўцы. За новыя касцюмы ўдзячны войту Нарваўскай гміны Яну Іванюку, які забавязаўся разлічыцца за іх выкананне.

Адзінац-цаць жанчын з калектыву „Тыневічанкі" спяваюць пад акампанемент Сямёна Карнілюка, які цэлы год даязджаў да іх на ровары са Старога Беразова, а зала клуба ў Вялікіх Тыневічах, у якой, здавалася спачатку, не будзе замнога зацікаўленых, даслоўна лопаецца ў швах. Бліскаюць фотаўспышкі, робяцца здымкі для тэлебачання, хвалюецца і цешыцца Валянціна Франкоўская — гэтая ўпартая і нястомная жанчына не толькі спявае ў калектыве пятнаццаць гадоў, але была — побач з нежывучым ужо Міколам Сельвяструком з Гародчына — яго заснавальніцай і вядзе калектыў да сёння. Паміраючы ў свае 42 гады, Мікола Сельвяструк, гэты аддана роднай песні самадзейны музыкант, вельмі прасіў, каб як магла, утрымала гэты калектыў. Да сёння Валянціна Франкоўская памятае яго словы і тое, што паабяцала выканаць яго апошнюю волю.

„Тыневічанкі" спяваюць не з далёкай эстрады, якой, зрэшты, у клубе няма, а проста стаяць перад публікай. І гэтая непасрэдная блізкасць самадзейных артыстаў і гледачоў нікому не перашкаджае, а наадварот, яднае ўсіх. Гэта ж і спяваюць яны пра іх супольнае тутэйшае жыццё, часамі радаснае, вясёлае, часцей гаротнае і працавітае. Гэтыя песні, што складаліся пакаленнямі на іх зямлі, гэта іх слёзы, іх усмешкі. Няма такіх песень, як у Тыневічах!..

Сваё пятнаццацігоддзе калектыў святкуе 10 лістапада 1995 года — на шаснаццатым годзе дзейнасці. Упершыню выступілі ў 1980 годзе на дажынках у Нарве. На працягу гэтых гадоў выцягвалі з куфэркаў сваёй памяці песні бабуляў, спявалі і тыя песні, што жывуць па сёння ў вёсцы, ставілі абрадныя сцэнкі са свайго жыцця. 20 лістапада 1985 года адбыліся „хрысціны" калектыву. Далі яму імя: „Тыневічанкі", а хроснай маці была прысутная сёння Барбара Пахольская, віцэ-дырэктар Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку, колішняга Ваяводскага дома культуры.

„Тыневічанкі" паказвалі сваё майстэрства не толькі на Беласточчыне, але і на Беларусі, выступалі па радыё і ў тэлебачанні, а вось цяпер збіраліся на агляд калектываў нацыянальных меншасцей у Варшаву. Дзяліліся сваёй песняй з людзьмі, рассявалі яе цёплыя, лагодныя праменні па свеце.

Сёлета ў Гайнаўцы ўпершыню выдадзена сто касет з запісамі песень калектыву „Тыневічанкі". Пра гэта паклапаціўся Мікола Бушко, дырэктар Гайнаўскага дома культуры. А пад самае іх свята выйшаў спеўнік з песнямі, што спяваюць тыневіцкія жанчыны. Ой, напрацаваўся пры гэтым Сцяпан Копа! Сто дваццаць тры песні на іх гаворцы запісаў і зрабіў нотную транскрыпцыю. Багацейшым рэпертуарам, сцвердзіў ён, як па колькасці, так і па якасці, не можа пахваліцца ніводзін калектыў на Беласточчыне! А найбольш песень запісаў ад Валянціны Франкоўскай і Вольгі Свентахоўскай, дачкі Мікалая. Валянціну Франкоўскую так і назваў: „энцыклапедыя" фальклору Тыневіч і ваколіц.

Свежанькія, як кажуць, яшчэ цёплыя, зборнікі з песнямі „Тыневічанак", што толькі а 15-ай гадзіне былі ўзяты з друкарні, уручыла членам калектыву Барбара Пахольская, віцэ-дырэктар ВААКу, які і выдаў гэты спеўнік. І быў гэта, бадай, найбольшы падарунак тыневіцкім жанчынам у гэты вечар.

На святкаванне свайго юбілею члены калектыву „Тыневічанкі" запрасілі сяброўак з Арэшкава, якія спяваюць у калектыве „Арэшкі" і з'яўляюцца лаўрэатамі многіх песенных конкурсаў, а таксама гайнаўскі хор, якім кіруе Анна Стрыха з Гародні, а песні іх бадзёрыя, частушкі. І так спяваюць наперамену: „Тыневічанкі" ў старых касцюмах — „Арэшкі" — „Тыневічанкі" ў новых касцюмах (бель і чырвань) — гайнаўскі хор —

*Працяг на стар. 8*

*Лена Глагоўская*

## З'ездзіць у Беларусь

Нагодай на гэты раз стала запрашэнне Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына" на свае 5-я ўгодкі. З гэтай нагоды 11—12 лістапада ў Менску адбылася сустрэча старшынёў беларускіх суполак замежжа. Пачуццё нацыянальнага абавязку і цікавасць да сённяшняй Беларусі не дазвалялі застацца дома. Камунікацыйнае спалучэнне Гданьска з Беларуссю таксама не найгоршае — з Гдыні ездзіць цягнік у Гродна. Хаця адлегласць больш за 500 км, цягнік бескупэйны. Не ведаю ці дзе-небудзь у Польшчы такія цягнікі на такіх дыстанцыях ездзяць. Але як аказалася па дарозе, яны вельмі выгадныя для падарожнікаў прыгранічнай зоны. Няма мусіць у гэтым цягніку часткі, якой бы не можна было адкруціць і схаваць туды спірт ці папяросы. Уночы цягнік едзе да Беластока амаль пусты, што аж страх задрамаць на хвіліну. Папаўненне пасажырамі пачынаецца ў Беластоку. Чуюцца тады польская і руская мовы. Польскамоўныя пасажыры разважаюць да каго зайсці ў Гродне за спіртам і папяросамі, каб не выдаць зашмат грошай і зараз вяртацца назад. Сядзеўшыя побач беларусы плануюць чарговую паездку ў Польшчу. Іх, як людзей гандлю, зацікавіла, чаму гэта Польшча сабіраецца святкаваць 11 лістапада. Пра ніякую „непадлегласць" Польшчы яны, вядома, ніколі не чулі і з нейкім здзіўленнем прынялі мой адказ, што для Польшчы 11 лістапада таксама дзяржаўнае свята як для Беларусі 7 лістапада. Відаць, цяжка ім было гэта зразумець, калі запыталі: „Ці ў Польшчы рэвалюцыя была 11 лістапада?" Да Кузніцы-Беластоцкай цягнік папаўняўся да сваіх аб'ёмных магчымасцяў брудным, перапітым, перад усім маладым, натоўпам. Пах бруду і спірту вісеў у паветры. Да гэтага вобразу вельмі падыходзіла кантралёрша білетаў: у пакамячанай спадніцы праціскалася між натоўпам перад кожным выцягваючы па-жабрацку руку. Не сцяміўшы ў чым справа — у Беларусь ехала я не першы раз — паказала ёй свой білет. Мабыць, была я адзінай пасажыркай з білетам. Апошнія давалі па залатоўцы (ад Кузніцы) ці па дзве (ад Саколкі) кантралёршы ў руку, якая пасля сыпала дробныя ў кішэню. Спрытнейшым удалося пераехаць мяжу бясплатна.

Гародня прывітала лістападаўскім марозам. На першы погляд нічога там не мяняецца. Аўтобусная станцыя, надалей занядбаная, працягвае быць самай дрэннай візіткай прыгранічнага горада. Хаця долар паказвае на стабілізацыю — курс такі самы як вясной, 11 500 беларускіх рублёў, — аднак цэны радыкальна ўзраслі. Як выявілася, танней зараз з'ездзіць за харчамі ў Беласток, чым купляць горшыя, менш смачныя і даражэйшыя прадукты ў Гародні. „У нас яшчэ адно гарэлка танней, чым у вас", — паўтаралася ў

*Працяг на стар. 5*

# Подых запаведніка

— Той, хто яшчэ варушыцца, той адсюль уцякае, — паўтараюць на ўсіх старых вёсках у наваколлі Семяноўскага вадасховішча і Белавежскай пушчы.

Тут, як нідзе, жывецца цяжка. Галоўнай тэмай дня, канкрэтна 16 лістапада 1995 г., была размова пра выпіўку, рыбалку і прэзідэнцкія выбары.

У Н. п'юць усе мужчыны.

— Нават мужыкі настаўніц, — быццам у апраўданне пачуеце ў жыхароў.

Адзіным аўтарытэтам, станоўчым узорам ёсць тут 70-гадовы святар.

Раней у Н. жылося намнога лягчэй.

— Дзяўчаты з самой Гайнаўкі за нашых хлопцаў выходзілі замуж, — пачуеце ўспаміны пра старыя добрыя часы.

У Н. існаваў чыгуначны пункт перагрузкі тавараў з-за ўсходняй мяжы.

— То былі часы, кожны, хто хацеў меў працу. З Беластока і Седльцаў да нас на заработак прыязджалі. А зараз і „Фармбест", і „Пронар" нас не хочуць. Маюць сваіх работнікаў. Ад нас толькі адна дзяўчына, эканамістка, там працуе, — наракаюць нядаўнія чыгуначнікі, зараз беспрацоўныя.

У Н. палова школьнікаў карыстаецца грамадскай дапамогай.

— Добра, што сям-там шчупачка ўдасца злавіць, — пацяшаюцца ў бядзе жыхары Н. Мясціна іхняя, паводле планаў будаўнічых вадасховішча, мела жыць у дабрабыце, з турыстыкі.

— А цяпер, калі тама прарвецца, то яшчэ патопімся, — песімістычна прарочаць вяскоўцы.

Дзесяць кіламетраў далей яшчэ больш сумная вёсачка. Раней была тут нават школа. Зараз пражываюць адно старыя людзі.

На брукаванай вуліцы звяртаемся да сустрэчнай кабеты.

— Як тут даехаць у С.?

— Papierosa nie macie? А можа, — калі зарыентавалася, што мы не гаворым па-польску, — а можа нейкі акурак у попельніцы знойдзецца? — умольна не адступае жанчына, на першы погляд алкагалічка.

У С., чарговай пушчанскай вёсцы, адкуль відаць ужо Рэспубліку Беларусь, таксама сумна.

— Зямелька ў нас ліхая, — гавораць жыхары, — а яшчэ лясная звярына ўсё цярэбіць.

Многія палеткі, агароды ў С. агароджаныя высокім, драўляным плотам.

— Ад дзікоў, аленяў і зайцоў сёлета не адагнацца. Кажуць, што і ваўкі зноў паявіліся, — наракаюць сяляне, у большасці пенсіянеры.

У С., як і ў Н., п'юць усе мужчыны. Выхаваннем дзяцей займаюцца тут выключна жанчыны. У мясцовым магазіне найлепш „ідзе" віно маркі „Віно" і гарэлка. Хлеб давозяць сюды тры разы ў тыдзень, а і той часта засыхае.

— Пётэр, ідзі ўжо дахаты, — памацярынску абыходзіцца прадаўшчыца з ледзь прытомным маладзёнам.

— То добры хлопец, — апраўдвае яго жанчына перад намі прыезджымі. — Нават калі два тыдні пап'е, то пазней як конь працуе.

У С. як чумы баяцца запаведніка.

— Тады то нават хлеба не будзе за што купіць, — чую ад маладой кабеты.

С., як многа пушчанскіх вёсак, жыве з лесу. Многія мужчыны працуюцьляснымі рабочымі, жанчыны ходзяць на падзённы заработак, збіраюць грыбы, жалуды, чарніцы.

— Вы на каго галасаваць будзеце? — пытаюць пра майго кандыдата на прэзідэнта. У гміне, да якой належаць С. і Н., толькі адна асоба галасавала на Леха Валэнсу.

— Ксёндз прагаласаваў, бо мусіў, — расказваюць як нейкі анекдот у С. пра вынікі першага „тура" выбараў.

У С. жывуць і каталікі, і праваслаўныя. Штодзень усе карыстаюцца беларускай мовай.

Апрача анекдотаў чую жахлівыя расказы пра сямейныя справы.

— Гэта тэма для газеты! — пераконваюць мяне ў С.

У вёсцы ўжо тры месяцы гаворыцца пра паводзіны сям'і А.

Сужонства А., маладыя беспрацоўныя з дваімі дзяцьмі, жылі ў бацькоўскай хаце. Да іх вярнуўся яшчэ адзін брат, бо страціў працу ў горадзе. Стала цеснавата. Аднойчы гасцяваў у іх дабрадушны кавалер, які пасля выпіўкі сказаў сужонству А.: „Як вам тут цесна, то хадзіце жыць да мяне". Сужонства пакарысталася запрашэннем ужо на другі дзень, дакладней у другую ноч, бо якраз каля поўначы пасяліліся ў гасціннай хаце дабрадушнага кавалера.

Усё было б як у казцы, але сужонства А. ўпадабала сабе хату настолькі, што захацела мець яе назаўсёды.

— Папсавалі яму відэа, нішчаць мэблю, а як нап'юцца то з хаты прaганяюць! — расказвае добра зарыентаваная цётка.

Перад нахабнасцю ў такіх вёсках як С. няма ратунку. Вяскоўцы, хацея і абураюцца, не шкадуючы сакавітых эпітэтаў сужонству А., трымаюцца на бяспечную адлеглаcць ад брыдкай справы. На выхад з гэтага тупіка ніхто не мае рэцэпта.

**Ганна Кандрацюк**

# Дзве ацэнкі

Дзмітры Я. з Дубяжына паслаў брату тэлеграму ў Варшаву. Праз некалькі дзён атрымаў ён ліст з Раённай паштовай управы ў Бельску-Падляшскім, у якім прасілі даць ацэнку працы Бельскай пошты.

Здзіўлены жыхар Дубяжына паказаў мне службовую пісульку. Пераглядзеўшы яе, я раслумачыў швагру, што спадар дырэктар хоча проста ведаць яго меркаванне аб працы сваіх падначаленых, калі ён карыстаўся паслугамі пошты.

Бельскія працаўнікі, культурныя і ветлівыя, хутка абслугоўваюць сваіх кліентаў. Гэта тычыцца і пісьманосца з Рыгораўцаў, які абслугоўвае Дубяжын. У адказе Дзмітры Я. даў станоўчую ацэнку бельскім паштавікам.

Прыемна бачыць, што кіраўніцтва паштовага ўпраўлення ў Бельску-Падляшскім цікавіцца працай сваіх работнікаў і дбае пра сваіх кліентаў і якаснасць паслуг!

Гэты прыклад варты падтрымкі!

***

18 лістапада г.г. была мне адпраўлена тэрміновая тэлеграма з Варшавы. Адпраўшчык заплаціў каля сямідзесяці тысяч старых злотаў, у тым ліку і за пасыльнага, бо ў Варшаве сказалі, што ў Чаромсе можа не пастаўляюцца паведамленні тэрмінова (калі паслаць „простую тэлеграму").

Хачу сказаць, што наша пошта лёгкадумна паставілася да маёй тэлеграмы. Мала таго, што зразу не даставілі пасыльным, дык пісьманосец пакінуў яе дачцэ ў Чаромсе.

У выніку несумленнасці нейкага паштовага чыноўніка, я не паехаў на тэрміновую сустрэчу. Патраціў дадатковыя кошты, бо трэба было паслаць іншую тэлеграму і назначыць іншы час сустрэчы.

Калі я прабаваў высветліць гэтую справу на чаромхаўскай пошце, дык сказалі мне, што няма ў іх пасыльнага.

Не разумею, як можна браць грошы ад адпраўшчыка за паслугу, а пасля не справіцца са сваім абавязкам.

Гэта ж проста ашуканства.

**Уладзімір Сідарук**

# Цёплыя ўспаміны

Артыкул „Семдзесят восьмая вера" пяра Аляксандра Вярбіцкага ў 47-м нры „Нівы" вельмі мяне зацікавіў. На здымку адразу пазнаў свайго добрага знаёмага сп. Мікалая Чарнецкага, аб якім і гутарка ва ўспомненым артыкуле. Не бачыўся я з гэтым добрым беларусам з Нараўкі ад мо нейкіх 25 гадоў і думаў, што яго ўжо і няма сярод жывых, бо тады, калі ён клаў брук у Тафілаўцах, быў ужо даволі стараваты. Я ўжо тады працаваў на пошце, спатыкаўся з ім штодзень і нашым гутаркам не было канца. Раней, у 1963—65 г.г., працаваў яназіральнікам дарожных работ у той самай фірме, што і Мікалай Чарнецкі — Камунікацыі публічных дарог у Гайнаўцы, дзе маім кіраўніком, майстрам дарог і мастоў, быў Іван Майстровіч, родам з вёскі Рудуты. Будаваліся ў той час жвіровыя дарогі з Дубіч у Орлю і ў Стары Корнін. Мікалай Чарнецкі клаў брук у Дубічах, Грабаўцы і Рутцы і я з ім штодзённа бачыўся, шчыра мы пасяброўвалі і час ад часу паўлітра ці віно выпілі. У дзядзькі Чарнецкага быў прыгожы голас, а яго любімай песняй была „Люблю я край, старонку гэту..." Бываў ён госцем у нашай хаце, пасябраваў з маімі бацькамі, якія яго вельмі шанавалі. Колькі ўжо гадоў прайшло, а здаецца, што гэта ўсё адбылося нядаўна. Пракладка мастаvой у Тафілаўцах была апошняй працай Мікалая Чарнецкага перад яго адыходам на пенсію. Я часта цёпла ўспамінаю яго і жадаю яму ўсяго найлепшага, добрага здароўя і каб дажыў залатога юбілею — 100 гадоў.

З пашанай

**Мікалай Панфілюк**

# Навіны з Гайнаўкі і аколіцы

У Гайнаўцы па вуліцы Баторыя, на пляцу Гайнаўскага прадпрыемства апрацоўкі драўніны, у доміках, якія раней прадпрыемства выставіла да агляду, прадаюцца тавары неабходныя для рамонту і будаўніцтва.

У краме па вул. М. Бучка, дзе раней прадаваліся мясныя прадукты, цяпер можна купіць касметыку.

У памяшчэнні пасля бару „Гайнаўянка" зрабілі „гуртоўню" спажывецкіх і прамысловых тавараў — варта туды зайсці пакупніку, таму што ў гэтым складзе можна шмат што набыць танней, чым у іншых крамах.

Па вул. 3 Мая ў памяшканні пасля „Орбісу" выдзялілі цяпер памяшчэнне для продажу запасных частак для легкавых аўтамабіляў, праводзяцца таксама курсы на вадзіцельскія правы.

У памяшканні, дзе раней быў „Пэвекс", зараз аптэка з гамеапатычнымі лякарствамі. У Гайнаўцы цяпер больш аптэк — да 1989 г. была толькі адна, па вул. 3 Мая, пасля недалёка ад яе, па той жа вуліцы, паявілася другая, а з другога боку — яшчэ адна. Апрача тых трох аптэк ёсць яшчэ дзве — па вул. Пілсудскага і па Ліпавай.

У Семяноўцы, у памяшканні, дзе раней была станцыя чыгуначнікаў (пасля нейкі час гэты аб'ект пуставаў), адкрыўся бар „Ронда" — можна тут выпіць піва, паабедаць, штотыдзень арганізуюць у „Ронда" танцы.

У адрамантаваным памяшканні пасля школы ў Моры ўжо амаль тры месяцы дзейнічае бар, дзе можна купіць піва і ласункі. У час канікул арганізаваліся тут дыскатэкі па пятніцах, суботах і нядзелях. Цяпер тут пагуляць можна толькі ў суботу.

**Аўрора**

# Адноўленая магіла

Едучы па вуліцы Вулькі-Тэрахоўскай, што ў Чаромхаўскай гміне, за сялібай Хведара Назарука, каля дарогі, можна ўбачыць прыгожа агароджаны куточак. Гэта месца памяці расстраляных тут жыхароў вёскі і афіцэра Савецкай Арміі Уладзіміра Харытонава ў час апошняй вайны. Пакоіцца тут дзесяць чалавек.

31 год таму ў гэтым месцы адбыліся мітынг мясцовага насельніцтва і адкрыццё памятнай дошкі. У мінулым магілай апекаваліся вучні са школы ў Чаромсе. Прыбіралі, прыносілі кветкі. Час зрабіў сваё. Цэментная дошка пачала марнець.

Мясцовае насельніцтва, пры выдатнай грашовай дапамозе чаромхаўскай Гміннай управы, устанавіла новую металічную мемарыяльную дошку. У верасні г.г. адбылося богаслужэнне і пасвячэнне магілы айцом Георгіем Крысяком з Кузаўскага прыхода. Ва ўрачыстасці ўдзельнічаў пробашч Чаромхаўскай рымска-каталіцкай парафіі, прадстаўнікі Гміннай управы і Стражы гранічнай з Чаромхі, мясцовае насельніцтва, а таксама жыхары навакольных вёсак.

**(УС)**

# Цікавая выстаўка рысункаў

У Педагагічнай бібліятэцы па вуліцы Пілсудскага ў Гайнаўцы адкрылі выстаўку рысункаў Віктара Кабаца. На іх перш-наперш колішнія, цэнныя як помнікі старадаўнасці, будынкі ў Гайнаўцы і ў навакольных мясцовасцях. Мастак нарысаваў між іншым будынак дырэкцыі ляснoй вузкакалейнай чыгункі, будынак шкіпінарнага завода, фрагмент жыллёвага пасёлка „Чворакі" ў Гайнаўцы. На выстаўцы ўбачым даўні будынак пажарнага дэпо і старыя будынкі па вул. Бучка ў гэтым горадзе. Ёсць тут прыгожыя царкоўкі, капліцы, але таксама, напрыклад, домікі для лясных рабочых у Сахарэве, лясныя вартоўні.

На рысунках відаць вялікае зацікаўленне мастака помнікамі старадаўнасці, іх архітэктурай. Некаторыя непаўторныя старыя збудаванні зараз можна ўбачыць толькі... на рысунках вышэйзгаданага мастака.

Выстаўку можна глядзець кожны дзень (апрача субот і нядзель) у гадзінах 8.00—18.00 і ў чацвер у гадзінах 8.00—15.00.

**(яц)**

**Дырэктару<br>Пачатковай школы н-р 3<br>у Бельску-Падляшскім<br>ВАСІЛЮ ЛЯШЧЫНСКАМУ<br>словы шчырага і глыбокага<br>спачування з выпадку<br>напаткаўшага Яго гора —<br>смерці БАЦЬКІ<br>выказваюць<br>Педагагічная рада<br>і ўсе працаўнікі**

**Дырэктару<br>Пачатковай школы н-р 3<br>у Бельску-Падляшскім<br>ВАСІЛЮ ЛЯШЧЫНСКАМУ<br>словы шчырага і глыбокага<br>спачування з выпадку<br>напаткаўшага Яго гора —<br>смерці БАЦЬКІ<br>выказваюць<br>члены Бацькоўскага камітэта<br>і вучні**

**Усім родзічам, сябрам<br>і знаёмым, якія праводзілі<br>ў апошнюю дарогу<br>нашага Бацьку<br><br>МІКАЛАЯ ЛЯШЧЫНСКАГА<br><br>сардэчную падзяку<br>выказваюць<br>сем'і братоў Ляшчынскіх з Орлі**

# Краявід пасля выбараў

Хаця на Беласточчыне амаль усе праваслаўныя галасавалі на Квасneўскага, перамог тут Валэнса, які атрымаў 4 працэнты галасоў больш за свайго саперніка. Абазначае гэта, што прыгнятаючая большасць католікаў аддала свой голас на кандыдата, які атрымаў рэкамендацыю Касцёла. У адрозненні ад цэнтральнай і заходняй Польшчы тутэйшыя католікі аказаліся больш кансалідаванай групай. Рэлігійныя падзелы на Беласточчыне штораз больш выразна супадаюць з палітычнымі. Не ёсць гэта найбольш аптымістычны варыянт развіцця грамадскай думкі на будучыню.

Не ведаю, як у іншых масцовасцях ваяводства і краіны, але ў Беластоку шмат настаўнікаў у пачатковых школах праводзіла своеасаблівы апытальнік сярод вучняў аб тым, як галасавалі іх бацькі у першым і другім туры выбараў. На падставе прыкладаў з чатырох школаў Беластока на пытанне: чые бацькі галасавалі на Квасneўскага, падымалі рукі тыя дзеці, якія ходзяць на ўрокі рэлігіі да праваслаўных катэхетаў. На Валэнсу галасавалі бацькі тых дзяцей, якіх Закону Божага вучаць каталіцкія катэхеты. Такім чынам палітыка зрабіла вялікі крок у асяроддзе наймалодшага пакалення і калі такі ход падзеяў будзе працягвацца, чарговыя выбары на Беласточчыне стануць яшчэ больш адназначнымі і з яшчэ больш выразнымі палітычнымі падзеламі паралельна да канфесійнага разыходжання.

Другая выснова пасля гэтых выбараў кранае нацыянальнай свядомасці праваслаўных жыхароў нашага ваяводства. Аказваецца, што падзелы тутэйшага беларускага этнасу: на беларусаў, палякаў, праваслаўных палякаў, украінцаў, рускіх, не маюць так папраўдзе вялікага значэння. Рэакцыя праваслаўнай грамадскасці мела даволі выразна акрэслены характар. Напрыклад, „праваслаўныя палякі", якія дамінуюць сярод вернікаў нашага веравызнання ў Беластоку, аказаліся зусім глухія на заклікі Валэнсы да іх патрыятычных пачуццяў. Пакуль праваслаўны беластачанін не памяняе веравызнання, ніколі не стане такім самым палякам, як яго сусед католік. Думае ён і рэагуе аднолькава як амаль кожны беларус у ваколіцы Гарадка, Мельніка, Чаромхі, Кляшчэляў, Міхалова.

Трэцяя выснова, якая вынікае асабліва пасля першага тура галасавання, такая, што ў найбліжэйшым часе не замацуецца на Беласточчыне ніякі беларускі палітычны рух. Некаторым здавалася, што поспех у чарговых парламенцкіх выбарах Саюза левых дэмакратаў і адначасовае паражэнне Беларускіх выбарчых камітэтаў было вынікам асабістай папулярнасці Уладзіміра Цімашэвіча. Першы тур прэзідэнцкіх выбараў, не ўспамінаючы ўжо пра другі, паказаў, што гэтая палітычная плынь не мае пакуль што ніякай канкурэнцыі ў беларускім асяроддзі на Беласточчыне. Рацыянальна думаючы можа, напрыклад, здзіўляць, чаму не атрымаў тут ніякай падтрымкі кандыдат яшчэ больш левай партыі чым СЛД, менавіта Уніі працы прафесар Зялінскі ці прадстаўнікі сялянскіх плыняў — Паўляк і Лепэр. Без уліку сацыяльных, псіхалагічных і гістарычных абумоўленасцяў усходняй Беласточчыны не мае шанцаў рэальна заіснаваць ніякі палітычны рух, упрыгожаны словам беларускі. Заўсёды будзе ён выклікаць асаблівае зацікаўленне з боку розных вонкавых фактараў і зусім маргінальнае з боку грамадства, сярод якога шукае падтрымкі. Кожная іншая дзейнасць, якая не патрабуе падтрымкі і актыўнага заангажавання насельніцтва, мае нашмат больш шанцаў развіцця. Напрыклад, усе прапановы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ад 1991 г. адносна эканамічнага развіцця Беласточчыны (Саюз гмінаў) будуць рэалізавацца і рэалізуюцца, толькі, што такія праекты як мела БДА, пяць гадоў пазней прадставілі кіруючыя польскія партыі. Гэтым разам праекты нашым райцам і войтам здаліся знакамітымі. Здаецца, што няма ўжо гміны, якая не з'яўляецца членам якой-небудзь шырэйшай самаўрадавай супольнасці.

Пасля эйфарыі канца васьмідзесятых і пачатку дзевяностых гадоў беларускі рух на Беласточчыне пастаянна вяртаецца да структураў, якія надта ж напамінаюць шасцідзесятыя гады. Каб толькі яшчэ раз не прыйшлося перажываць нейкую „пабудову маральна-палітычнай еднасці польскага народу", нягледзячы на тое, хто яе будзе праводзіць.

**Яўген Мірановіч**

## Афіцыйныя вынікі II тура прэзідэнцкіх выбараў у Беластоцкім ваяводстве

| Гміна | Колькасць галасоў | | Працэнт галасоў | |
|---|---|---|---|---|
| | А.К. | Л.В. | А.К. | Л.В. |
| Чыжы | 2012 | 37 | 98,19 | 1,81 |
| Орля | 2862 | 72 | 97,55 | 2,45 |
| гм. Гайнаўка | 2886 | 87 | 97,07 | 2,93 |
| Дубічы-Царкоўныя | 1434 | 51 | 96,57 | 3,34 |
| Нараўка | 2583 | 176 | 93,62 | 6,38 |
| Кляшчэлі | 1839 | 195 | 90,41 | 9,59 |
| Чаромха | 2062 | 230 | 89,97 | 10,03 |
| Нарва | 2353 | 330 | 87,70 | 12,30 |
| Гарадок | 3080 | 454 | 87,15 | 12,85 |
| Нурэц-Станцыя | 2256 | 499 | 81,89 | 18,11 |
| Белавежа | 1162 | 269 | 81,20 | 18,80 |
| Мілейчыцы | 1223 | 290 | 80,83 | 19,17 |
| Гайнаўка | 10105 | 2553 | 79,83 | 20,17 |
| гм. Бельск | 4036 | 1039 | 79,53 | 20,47 |
| Міхалова | 3146 | 1071 | 74,60 | 25,40 |
| Мельнік | 1232 | 509 | 70,76 | 29,24 |
| Бельск-Падляшскі | 9633 | 4362 | 68,83 | 31,17 |
| гм. Сямяцічы | 2389 | 1163 | 67,26 | 32,74 |
| Шудзялава | 1156 | 830 | 58,21 | 41,79 |
| Сідра | 1080 | 797 | 57,54 | 42,46 |
| Новы Двор | 854 | 684 | 55,53 | 44,47 |
| Сямяцічы | 3528 | 2870 | 55,14 | 44,86 |
| Крынкі | 1066 | 1065 | 50,02 | 49,98 |
| Супрасль | 2650 | 2700 | 49,53 | 50,47 |
| Боцькі | 1587 | 1618 | 49,52 | 50,48 |
| Саколка | 5507 | 6499 | 45,87 | 54,13 |
| Янаў | 919 | 1092 | 45,70 | 54,30 |
| Беласток | 61744 | 80391 | 43,44 | 56,56 |
| Заблудаў | 2428 | 3242 | 42,82 | 57,18 |
| Чорная-Беластоцкая | 2121 | 3216 | 39,74 | 60,26 |
| Монькі | 2585 | 3980 | 39,38 | 60,62 |
| Дуброва-Беластоцкая | 2407 | 3758 | 39,04 | 60,96 |
| Сухаволя | 1352 | 2261 | 37,42 | 62,58 |
| Гродзіск | 1016 | 1714 | 37,22 | 62,78 |
| Кузніца-Беластоцкая | 825 | 1423 | 36,70 | 63,30 |
| Драгічын | 1223 | 2113 | 36,66 | 63,34 |
| Карыцін | 553 | 1009 | 35,40 | 64,60 |
| Ясяноўка | 401 | 916 | 30,45 | 69,55 |
| Васількаў | 1534 | 3598 | 29,89 | 70,11 |
| Юхнавец-Дольны | 1689 | 4044 | 29,46 | 70,54 |
| Дзядковіцы | 414 | 993 | 29,42 | 70,58 |
| Пасвентнае | 542 | 1335 | 28,88 | 71,12 |
| Харошча | 1756 | 4351 | 28,75 | 71,25 |
| Кнышын | 650 | 1628 | 28,53 | 71,47 |
| Ясвілы | 715 | 1851 | 27,86 | 72,14 |
| Рудка | 243 | 651 | 27,18 | 72,82 |
| Сураж | 330 | 960 | 25,58 | 74,42 |
| Дабжынева | 991 | 2924 | 25,31 | 74,69 |
| Лапы | 2838 | 8476 | 25,08 | 74,92 |
| Крыпна | 465 | 1417 | 24,71 | 75,29 |
| Бранск | 425 | 1333 | 24,18 | 75,82 |
| Турасnь-Касцельная | 562 | 1921 | 22,63 | 77,37 |
| Тыкацін | 729 | 2812 | 20,59 | 79,41 |
| Вышкі | 621 | 2656 | 18,95 | 81,05 |
| гм. Бранск | 685 | 3380 | 16,85 | 83,15 |
| Разам | 166484 | 179895 | 48,06 | 51,94 |

А.К. — *Аляксандр Квасneўскі* Л.В. — *Лех Валэнса*

## Польшча ў новым суседстве: бяспека — супрацоўніцтва — міжкультурная камунікацыя

Пад такім загалоўкам у Сопаце ў днях 17—19 лістапада 1995 г. адбылася канферэнцыя польскіх палітолагаў згуртаваных у Польскім таварыстве палітычных навук. Цікавая тэма была ўсебакова разгледжана ў навуковых выступленнях. Аналізы адносін Польшчы з суседзямі могуць дапамагчы палітыкам у выпрацоўцы лепшага супрацоўніцтва. Падкрэслівалася роля стэрэатыпаў у станаўленні кантактаў з суседзямі. Пра становішча Беларусі ў палітыцы Польшчы і міждзяржаўныя адносіны гаварыў прафесар Анджэй Хадубскі з Гданьскага універсітэта. Не абмінуў ён праблемы меншасцей у гэтых краінах. Гаворачы пра беларусаў у Польшчы прафесар звярнуў увагу на творчыя поспехі нашай маладой беларускай інтэлігенцыі, выдавецкую дзейнасць Беларускага гістарычнага таварыства. Падкрэсліў цікаўнасць „Czasopisa" для польскага чытача.

**Лена Глагоўская**

# СУСТРЭЧА З ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРАМ

27 лістапада з афіцыйным візітам пабываў у Польшчы прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь **Міхаіл Чыгір**. У праграме візіту была таксама гадзінная сустрэча з прадстаўнікамі беларускіх арганізацый у Польшчы.

Сустрэча прайшла ў пасольстве Рэспублікі Беларусь у Варшаве, над якім лунае ўжо новы-стары лукашэнкаўскі сцяг. На фасадзе будынка выразна відаць цямнейшую пляму ў тым месцы, дзе раней была Пагоня.

Прэм'ер-міністр пераказаў сабраным плён перамоў з польскім урадам. Між іншым, былі падпісаны пагадненні аб супрацоўніцтве ў галіне адукацыі, навукі і культуры, аб развіцці турыстыкі і аб супрацоўніцтве мытных службаў. За ўпарадкаванне спраў на гранічных пераходных пунктах з польскага боку будзе адказваць віцэпрэм'ер і міністр фінансаў Гжэгаж Калодка, а з беларускага — намеснік прэм'ер-міністра па знешнеэканамічных пытаннях Леанід Сініцын. Спадар Чыгір заявіў, што неўзабаве будзе падпісана таксама пагадненне аб тавараабмене ў нацыянальных валютах, напачатак у польскіх злотах, як мацнейшай і больш стабільнай валюце, а затым і ў беларускіх рублях. Беларускаму боку вельмі залежыць на тым, каб палякі зменшылі мытныя квоты на некаторыя прамысловыя тавары, напрыклад халадзільнікі ці трактары. Сёння трэба за іх на мытні заплаціць каля 30% іхняй вартасці.

Як першы ў дыскусіі слова ўзяў **мітрапаліт Васіль**, галава Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Падкрэсліў ён рост значэння Беларусі ў свеце і пажадаў усходнім суседзям усяго найлепшага, бо „там наша сэрца і душа, там наш кроўны народ".

**Праф. Аляксандр Баршчэўскі** падкрэсліў, што „усе мы дзеці Беларусі, у нацыянальным, не дзяржаўным, сэнсе". Таму з болем прыглядаемся таму, што адбываецца ў Рэспубліцы Беларусь, якою кіруе абсалютна не беларуская ўлада. Майскі рэферэндум быў ударам па староннікаў беларускасці. Афіцыйнае двухмоўе гэта чыстая фікцыя. Нават размовы ўрадавай дэлегацыі ў Варшаве вядуцца па-расейску.

Прэм'ер Чыгір адказаў, што не вернеш назад таго, што здарылася. З вынікамі рэферэндуму трэба змірыцца і працаваць у такіх умовах, якія ёсць. Для Беларусі найважнейшая эканамічная незалежнасць. Калі яна будзе, стане і народ думаць катэгорыямі сваёй дзяржавы.

Мітрапаліт сказаў, што Царква лічыць, што кожная ўлада ад Бога. „Калі яна дрэнная, мы молімся, каб яна палепшала".

У далейшым гаворка ішла, між іншым, пра маральную падтрымку Рэспублікі Беларусь беларусам Беласточчыны, пра эканамічнае і культурнае супрацоўніцтва між Польшчай і Беларуссю ды заўсёдныя праблемы шчыльнай дзяржаўнай мяжы. Галоўны рэдактар „Przeglądu Prawosławnego", былы пасол польскага Сейма Яўген Чыквін закрануў справу Супрасльскага манастыра. Сённяшняе яго становішча выклікала здзіўленне міністра замежных спраў Беларусі **Уладзіміра Сянько**, які два гады таму — тады яшчэ як пасол у Варшаве — удзельнічаў у міждзяржаўных перамовах, у выніку якіх бакі пагадзіліся на передачу Супрасльскага манастыра Праваслаўнай царкве ў Польшчы. Тым больш, што гэтая маёмасць перадавалася з дзяржаўнага фонду, таксама як больш за 240 касцёлаў на Беларусі.

У галіне эканамічнага супрацоўніцтва цікавую навіну паведаміў **Віктар Стахвюк**. Яго фірма „Белмор 1" стварае беларускі флот. Мае ўжо нават адзін рыбацкі карабель, „Гайдук". Карабель стаіць на Ахоцкім моры, але, на жаль, без адпаведных урадавых папераk не можа лавіць рыбу.

На заканчэнне гэтага куртуазійнага спаткання праф. Баршчэўскі сказаў, што польскія беларусы зацікаўлены кантактамі між Польшчай і Беларуссю на найвышэйшым узроўні, а тым часам у Варшаве няма нават пасла. Пахваліў ён цяперашніх беларускіх дыпламатаў у Польшчы і папрасіў: „Калі ласка, толькі не прысылайце нам сюды ніякага рускамоўнага чыноўніка, бо гэта толькі панізіць прэстыж беларускай дзяржавы".

**Мікола Ваўранюк**

# „Легіянеркі”

Найменне „легіянеры” асацыюецца наогул з гісторыяй — з Рымам, каланіяльнымі заваёвамі Францыі, або з Пілсудскім. У сучаснай Польшчы „Чужаземскім легіёнам” называюць спартсменаў з-за мяжы, якія выступаюць за польскія клубы. Большасць „легіянераў” паходзіць з-за ўсходняй мяжы.

Мінчанкі Іна Смірнова і Ірына Жылач гуляюць у баскетбольнай камандзе беластоцкага клуба „Агнэлля-Влукняж”. Абедзвюм па 22 гады, нарадзіліся амаль у адзін дзень, Ірына 1 лютага, Іна 2 таго самага месяца. Закончылі з чырвоным дыпломам Акадэмію фізічнага выхавання і спорту. Адначасова былі баскетбалісткамі славутай каманды „Гарызонт” Мінск. Дзяўчаты з іх стройныя: Іна мае 194 см росту, Ірына — 182 см. Іна гуляе як цэнтар; Ірына як адзінка, г.зн. вядзе гульню ўсёй каманды. У Мінску яна гуляла як афенсіўны абаронца і выступаць у новай ролі прыходзіцца ёй цяжкавата.

— Гуляю не сваю гульню, — паясняе Ірына.

У Беласток першай папала Іна (чатыры месяцы таму), услед за сваім мужам Аляксандрам Радыёнавым, які раней прыйшоў у клуб „Дойліды-Інсталь”. Іна фактычна называецца ўжо Радыёнава, але выступае як Смірнова, бо так стаіць у пашпарце, якога не паспела памяняць.



*Ірына Жылач.* **Фота Яна Мальца**

На жаль, муж Іны не гуляе ўжо ў Беластоку, толькі ў Слупску. Атрымалася гэта такім чынам: разам з другім беларусам, Сяргеем Пінчуком, Саша Радыёнаў увёў „Дойліды-Інсталь” у першую лігу. Тым часам у польскай першай лізе без амерыканцаў цяпер не абысціся. Вось і „Дойліды-Інсталь” „купілі” двух „чорных” гульцоў, а беларусаў „прадалі” ў глыб Польшчы. Такія правілы камерцыі ў сённяшнім спорце.

— Я і дакарала Сашу: бачыш, дурны, што ты нарабіў, навошта так стараўся, — жартуе Іна, але відаць, што сапраўды ёй не да смеху.

Ірына прыехала з Мінска два месяцы таму. Якраз паступіла на аспірантуру і на экзамены даводзілася ёй ездзіць з Беластока. Здала паспяхова, але мусіла перайсці на завочнае аддзяленне.

Мінчанкі прыйшлі ў Беласток на месца дзвюх вельмі добрых спартсменак з усходу: Дыляры Велішаевай і Алены Федарак. Ці змогуць яны замяніць сваіх папярэдніц і ўтрымаць каманду ў першай лізе?

— Мы будзем старацца, але пра гэта трэба спытаць усіх дзяўчат з каманды і кіраўніцтва клуба, — адказвае Ірына.

— Я мела ўжо нагоду сустрэцца з Аленай Федарак на пляцоўцы. Каб мне больш масы набраць, дык магла б я супраць яе гуляць, — дапаўняе Іна. (Я раю Іне гэтай масы ўсё-такі не набіраць — шкада яе прыгажосці.)

Беласток сталічным дзяўчатам падабаецца, бо ціха тут і спакойна, ды паветра чыстае. З беларускіх гарадоў Беласток найбольш напамінае ім Гродна, столькі тут касцёлаў.

Пра існаванне нашай „Нівы” дзяўчаты не ведалі. Каб ведалі, што выходзіць тут беларускі часопіс, дык ахвотна чыталі б, бо беларускую мову вывучалі.

— Хто яе не вывучаў, — смяецца Іна, — а Ірына нават гаварыць умее.

— Цяпер з беларускай мовай у нашай Акадэміі стала лепш, бо ўсе студэнты здаюць пачатковы экзамен па беларускай мове, і вядуцца таксама заняткі па гісторыі Беларусі, але як мы вучыліся, дык гэтага не было, — паясняюць дзяўчаты.

У Беластоку пакуль што ніводнага беларуса не сустрэлі, хаця ў Мінску чулі, што тут такія ёсць.

— Відаць мы іх бачылі, толькі не ведалі, што яны беларусы, — кажа Ірына.

— Поўна ж тут палова такіх, — дапаўняе Іна.

Сябруюць з дзяўчатамі з каманды, але крыху ім тут сумнавата. Хочацца ў Мінск. Іна жыве ў сваёй кватэры, Ірыне абяцалі даць да першага лістапада; лістапад канчаецца, а кватэры няма. Ірына жыве ў гасцініцы пры спорт-зале „Влукняж”.



*Іна Смірнова-Радыёнава.* **Фота Міхала Косця**

— Можна было б вытрымаць, каб не тыя мышы і турысты. Я ж ведаю, што гэта нашыя людзі, але як тут спаць, калі яны навокал дапазна п'юць і гамоняць, — наракае Ірына.

Іна Смірнова-Радыёнава і Ірына Жылач напэўна застануцца ў Беластоку да красавіка будучага года, бо такі тэрмін іхняга кантракту. Што будзе пасля — не ведаюць. Гэта залежыць не толькі ад іхняй ігры, але і сітуацыі ў клубе. Прыехалі ж яны да нас „дзеля хлеба”. Наогул лічаць, што каб у Беларусі быў лепшы закон аб спорце, дык мала хто са спартсменаў ехаў бы за мяжу. Вось у Расію і Літву, дзе адпаведны закон дазваляе спонсарам адводзіць на спорт даволі вялікія сумы без падаткаў, „легіянеры” ўжо вяртаюцца.

**Алег Латышонак**

# З'ездзіць у Беларусь

*Працяг са стар. 1*

кожнай размове. Сапраўды, сёння каб праехацца на аўтобусе з Гародні ў Менск трэба заплаціць 86 000 рублёў. Таму ездзяць яны амаль пустыя.

Бліжэй Менска на палях бачны снег. Зімні краявід напамінае самыя лепшыя тэматычныя мастацкія карціны. Дрэвы ў інеі. Усюды бела-бела. Ёсць чым захапляцца! Менск таксама снежна-белы. Надалей будуецца станцыя — самая брыдкая звонку архітэктурная „раскірэка” ў сталіцы Беларусі.

Дагэтуль вядомыя ўсім прыехаўшым бясплатныя тэлефон-аўтаматы пачалі працаваць толькі на магнітныя картачкі. Такім чынам „камуна” скончылася, пачаўся карлікавы капіталізм. Як я пераканалася, вельмі цяжка купіць магнітныя картачкі. На кіёсках вісяць інфармацыі „Магнитных карточек нет”. Затым вялікая колькасць таксафонаў не выкарыстоўваецца.

Едучы ў інтэрнат на Сурганава, размаўляю з таксістам і чую адно нараканне на падаткі, на дарагоўлю і на палітыку „прыдурка”. Пасля сустрэч са знаёмымі я пераканалася, што ў грамадстве рэзка змяніліся погляды на палітыку прэзідэнта Беларусі. Ніхто ўжо не гаворыць пра надзеі на лепшае пры Лукашэнцы, а паўсюдна на яго наракаюць.

На вуліцах Менска паявілася, здаецца, больш міліцыянераў, асабліва ў наваколлі прэзідэнцкага палаца, былога ЦК КПБ. Стаячы на холадзе, хлопцы ў мундзірах, з сярпом і молатам на шапках, лузаюць семечкі. За два дні, здаецца, не бачыла я ў Менску, каб праваахоўныя сілы займаліся нечым іншым. Адносна сімволікі на шапках — бачыла розныя: з сярпом і молатам, Пагоняй і з новым гербам. Які тут парадак? Першага сярпа з молатам заўважылі мае спадарожнікі на шапцы ў пагранічніка, які кантраляваў пашпарты яшчэ ў цягніку. Нават запыталі ў яго: „A co ci, Sasza, czapkę starą dali?”

Сустрэча „Бацькаўшчыны” адбывалася ў халадноватым зале Дома літаратара. Прысутныя займалі можа каля паловы месцаў у ёй. Апошнія пуставалі. Мала было беларускай інтэлігенцыі і моладзі. Прыходзілася бываць мне раней у запоўненай да апошняга месца гэтай зале.

Адкрыў сустрэчу прэзідэнт „Бацькаўшчыны” Радзім Гарэцкі. Старшыня Рады „Бацькаўшчыны” Ганна Сурмач у сваім доўгім выступленні расказала пра дасягненні „Бацькаўшчыны”, падкрэсліваючы, што гэта грамадская арганізацыя, якая яднае беларускую эміграцыю. Устаноўчая канферэнцыя „Бацькаўшчыны” адбылася 10 верасня 1990 года. Пяцігадовы шлях вызначыў галоўным чынам развіццём кантактаў з беларусамі замежжа, чаго доказам быў І З'езд беларусаў свету летам 1993 г. Арганізацыя прыдбала сабе памяшканне на І паверсе ў былым Інбелкульце пры вул. Рэвалюцыйнай, 19. Як сказала Г. Сурмач і што было бачна — арганізацыя не падтрымоўваецца дзяржаўнымі ўладамі. Успомніла і пра непаразуменні з дэмакратычнымі сіламі, якія дайшлі да грамадства пры арганізацыі І З'езду беларусаў свету.

Сярод чарговых прамоўцаў былі прадстаўнікі эміграцыі і мясцовых арганізацыяў. З самых цікавых для мяне выступленняў хачу адзначыць выступленне Уладзімера Дзяржыцкага з Кішынёва пра сітуацыю беларусаў у Малдове. Асабліва прагучала выступленне Станіслава Шушкевіча. У зале адчувалася, што гэта перадвыбарчае выступленне. Былы старшыня Вярхоўнага Савета закідаў БНФу памылковасць канцэпцый адраджэння Беларусі. Цікава, што яму таксама не хапіла самакрытыкі. С. Шушкевіч сумняваўся, ці ўдасца ў Менску склікаць ІІ З'езд беларусаў свету. Нават прапанаваў правесці яго за межамі Беларусі, каб паказаць антыбеларускасць урада Беларусі.

Два дні сустрэчы — гэта шмат часу, каб выказацца і пра дзейнасць суполак і пра спадзяванні на Беларусь і на „Бацькаўшчыну”, што зрэшты і мела месца. Абавязак вяртацца на працу, на жаль, не дазволіў быць да канца, калі прымаліся канчатковыя дакументы.

Увогуле на гэты раз прадстаўніцтва польскіх беларусаў зведзена было амаль да нуля. Камітэт пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы прадстаўляў Кастусь Майсеня. Быў і Ян Чыквін — старшыня літаб'яднання „Белавежа”. Заглянуў таксама, занятаы рознымі справамі для беластоцкіх беларусаў, Юрка Каліна. У нядзелю 12 лістапада прыехаў Аляксандр Баршчэўскі. Г. Сурмач перажывала, што нас так мала.

Мяне сумавалі іншыя з'явы. З'ехаўшыеся эмігранты — людзі ў даволі сталым узросце. Адсутнасць маладога пакалення была бачная, можа апрача аднаго беларуса, які вучыцца ў Канадзе. Сумнае было б сцвярджэнне, што „Бацькаўшчына” яднае адно пакаленне.

Падарожжа назад у Польшчу выклікала маю цікаўнасць да пераменаў. Цягнікам з Гародні ў Беласток не ехала я больш чым год. Падарожжа праз памежную зону з Брэста ў Беласток апісваў Яўген Мірановіч у красавіку. Нічога не змянілася ад той пары, можа толькі кантрабандысты больш спецыялізаваліся. Зараз пасля заняцця месцаў у цягніку пачалося пераліванне і хаванне спірту, утойванне папяросаў. Адкручваліся лямпы і іншыя часткі вагона. Рукавы, нагавіцы напаўняліся ці то спіртам, ці папяросамі. Увесь цягнік перапоўнены кантрабандай. Усе гэтыя намаганні з вялікім поспехам адбываюцца перад польскімі мытнікамі. У час мытнай праверкі ўсе прыкідваюцца прыстойнымі культурнымі людзьмі, зацікаўленымі нават палітыкай. Нейкі пан пераконваў заказаных у Квасneўскім жанчын: „Nie trzeba na niego głosować, bo gdy wróci komuna kobiety będą wspólne, tak jak było kiedyś. A w ogóle skończy się nam nasz złoty interes”. Вядома, мытнікі неяк абыякава ставіліся да знаёмых ім са штодзённай працы твараў. Прычапіліся толькі да нейкай жанчыны, якая перавозіла спірт можа і ўперпшыню ў жыцці. Мае суседкі — частыя пасажыркі гэтага цягніка — сказалі, што мытнікі ведаюць ужо твары і найчасцей кантралююць новых.

Хаця мытная каманда выглядала строга, нікога амаль не кантралявалі, хаця ў паветры разносіўся пах спірту.

Вядома, пасля мытнай праверкі зноў пачалося пераліванне спірту, шуканне бутэлек і першыя гандлёвыя інтарэсы. Некаторыя прадалі свой тавар і выселі ў Кузніцы ці Саколцы, каб вярнуцца назад. Вельмі лоўка спраўляліся маладыя хлопцы. Дзе яны толькі не хавалі памянёныя тавары. І ўсё шчасліва ўдалося перавезці. Паспяховая здзелка заахвочвала да наступнага падарожжа. „Jutro nie mogę, — сказаў адзін з іх, — bo idę po kuroniówkę”. Некаторых, здавалася, бачыла я і год таму назад у гэтым жа цягніку.

Кантрабанда, відаць, стала прыбытковым заняткам для жыхароў пагранічча. Цікава толькі, ці нехта з іх апіша калі-небудзь усё гэта ў кнізе.

**Лена Глагоўская**

Зорка
Старонка для дзяцей

## Лічылка

Сем семярэй
Ї сямёра свіней.
Свінка і свінчын брат
Ї сямёра парасят.

(*з народнага*)

# Пра сустрэчу ў Семяноўцы

— Я то хацеў бы жыць толькі ў Семяноўцы, — гаворыць Данель Аніскевіч, выдатнік з трэцяга класа, — бо як мы былі на экскурсіі ў Варшаве, то там вельмі забруджанае паветра і я таму хацеў бы жыць у сваёй вёсцы, бо нашае паветра чыстае.

Пасля такой высновы, ніхто з дзяцей не адважыўся „пасяліцца” ў Варшаве, Лондане ці Нью-Йорку.

— А што ты хацеў бы рабіць тут, Данель?

— Хацеў бы стаць беларускім афіцэрам.

— А я — нямецкім, — уключыўся ў размову іншы хлопчык. — Але чаму якраз нямецкім, не ведаю, — удакладніў.

Сярод класных сяброў-хлапчукоў паявіліся яшчэ і рускія афіцэры, аднак у канцы спрэчкі большасць усё ж захацела стаць беларускімі афіцэрамі!

— А я пры дрэве хацеў бы працаваць, — заявіў Адрыян, класны сябра.

— Пры дрэве? Чаму ж такі паспаліты выбар, — здзівіліся нашыя „афіцэры”.

— Бо буду рэзаць дрэвы, рабіць паперу, пазней буду друкаваць „Ніву”, а пазней „Зорку”.

Планы Адрыяна настолькі ашарашылі „вайскоўцаў”, што адразу захацелі таксама стаць рэдактарамі і выдаўцамі „Нівы”.



*Выдатнікі разам з настаўніцай Ліляй Тарасевіч і дырэктарам школы Уладыславам Кічко.*

У такой цікавай і надзейнай атмасферы я і мой рэдакцыйны сябра Мікола Ваўранюк сустрэліся з вучнямі ў Семяноўцы.

Дырэктар школы Уладыслаў Кічко расказаў пра школу, а настаўніца беларускай мовы Ліля Тарасевіч — пра вучняў і сваіх выдатнікаў.

У Семяноўцы вучыцца 85 школьнікаў. Апрача мясцовых ходзяць тут дзеці з Тарнопаля, Пасек, Баб'яй-Гары.

Школа можа пахваліцца лаўрэатамі ваяводскага прадметнага конкурсу па рускай мове. Многа тут таксама энтузіястаў спорту,

— Найбольш цікавыя ўрокі праводзяцца ў малодшых класах, — гаворыць беларусістка. — Дзеткі вельмі шчыра і энтузіястычна ўспрымаюць родную мову.

У Семяноўцы вельмі многа выдатнікаў па беларускай мове. Зараз назавем прозвішчы гэтых дзяцей. Хай хаця ў такі спосаб маюць нашую падтрымку і вераць, што варта вучыцца роднай мове. Пачнем з другога класа: Таіса Засім, Ірэк Семянюк, Марцін Трусевіч. У ліку выдатнікаў апынуліся таксама Эвэліна Матысюк, Данель Аніскевіч, Ася Трусевіч, Юстына Скепка з трэцяга класа; Дамініка Матысюк, Марцін Шыманюк, Бася Барэчка з чацвёртага; Эвэліна Аліфер, Эмілья Скепка, Агнешка Шыманюк. Івона Аліфер, Павел Аліфер, Лукаш Засім з шостага; Кася Лукша, Арэк Шыманюк, Моніка Мароз з сёмага; Аліна Рыгаровіч і Данель Засім з восьмага класа. Варта тут адзначыць, што Данель Засім цікавіцца матэматыкай і збіраецца паступіць у Гайнаўскі беларускі ліцэй.

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**

# ЛЕГЕНДЫ БЕЛАСТОЦКАЙ ЗЯМЛІ

## Ваўкалак

Кажуць, што ў даўнія часы ў нашых баках ведзьмы ўсялякія вадзіліся, і ад іх то людзям дабра не было.

Аднойчы абоз сольнікаў-чумакоў у далёкі Кракаў за соллю падаваўся. Каторайсь ночы сталі яны на папас: валоў пасвіцца пусцілі, а самі на вазах адпачыць прылеглі.

І здарылася так, што да аднаго, маладога ды статнага, чумака прыклыпала нейкая гарбатая бабулька і давай яго прасіць:

— Вазьмі мяне, чумачэньку, з сабою ў Кракаў. Вазьмі, золатца, на свой воз. Вазьмі, саколіку, не пашкадуеш...

Чумак жа, глянуўшы на старую ды зморшчаную бабулю, узлаваўся:

— А на што ты мне здалася, ведзьма такая, а цюга ад мяне!.. Ды — хлясь! — бічом па бабульчыным гарбе.

Разгневалася старая не на жарт і пагразіла:

— Ну-ну, чумачышча, пашкадуеш, ой, як пашкадуеш ты свой учынак! Будуць і цябе цюгаць ды пугамі хлястаць...

Сказала гэтак ды падрыпала некуды гасцінцам.

Як валы напасвіліся, пачалі чумакі іх у ярмы запрагаць.

Саскочыў і малады чумак са свайго воза. Аднак на зямлю не дзвюма нагамі стаў, але ракачам нагамі ды рукамі на мураве абапёрся. Зірнуў ён: а гэта ўжо не рукі і ногі чалавечыя, але воўчыя валахатыя лапы!.. Кінуўся ён да сваіх валоў, а тыя фыркнулі ды рагамі прастраміць нарацца. Адскочыў ён убок і бачыць: сябры-чумакі з пугамі ды каламі да яго бягуць і крычаць: „А цюга! А цюга! А цюга!” Хацеў ён азвацца да іх, ды нешта горла сціснула, і замест чалавечай мовы прагучэла дзікае воўчае выццё. Дапалі яго чумакі ды давай бічамі хлястаць і каламі валіць — ледзь жывы ён ад іх вырваўся.

Ускочыў малады чумак у гушчавіну, прысеў адсапчыся і змеркаваў: „Не інакш, значыць, я ваўкалакам стаў!..” Прыгадаліся яму розныя аповеды старых людзей з яго сяла пра бядотную долю тых, каго злыя ведзьмы ў ваўкалакаў абярнулі, і забалела яму сэрца моцна-моцна. І тут заплакаў ён горка-горка, а з яго пашчы вырваўся не енк чалавечы, але нейкі звярыны сковыт.

Скавытаў ён гэтак доўга ці коратка, аж раптам пачуў:

— Не бядуй, браток, ты тут не адзін... Мяне таксама такое няшчасце напаткала.

Азірнуўся ваўкалак, а каля яго іншы воўк сядзіць і кажа:

— Хутка навучышся воўчаму жыццю: як харч сабе здабываць ды як ад пагоні ратавацца. А калі ж ужо аніяк нічога здабыць табе не ўдасца і з голаду ў бакі кідаць стане, тады ты памаліся. А ці ведаеш, як ваўкі моляцца? Не ведаеш. Ну дык ведай: садзяцца яны на заднія лапы, кладуць галаву на пярэднія і як мага сумней завываюць. Маліцца ж гэтак трэба доўга-доўга, а памаліўшыся, хутка бегчы ў той бок, дзе першы голас пачуецца. Гэта спажыва на твой зуб просіцца.

Яшчэ сёе-тое параіў сябра ваўкалаку і на развітанне сказаў:

— Ну, а калі апынішся ў вялікай патрэбе, тады брахні тры разы па-сабачы. Я пачую, прыбягу і дапамагу.

Падбадзёрыў гэтак ды і знік у лесе.

Паклыпаў наш ваўкалак таксама ў гушчэчу і пачаў жыць паваўчы: то зайца ўпалюе, то казулю знянацку схопіць і гэтак перабівацца з голаду ды на прагаладзь.

Настаў такі час, што ваўкалаку доўга-доўга нічога прыдбаць не ўдавалася. З голаду ён ужо ледзь ногі валачыў, і нават у бакі яго кідаць пачало. Прысеў ён, паклаў галаву на пярэднія лапы і завёў такую жаласлівую малітву, што ўсё жывое ў наваколлі ажно змярцвела ад жудасці. Выў доўга-доўга, а калі суцішыўся дык пачуў: гусі адзываюцца! Ён — скок! — туды ды бачыць: рэчка, а за ёю, на беразе, чарада гусей гуляе.

Прысеў ваўкалак на самым абрыве ды бядуе: „Не дастану я іх, бо плаваць не ўмею”. І тут прыгадаўся яму той сябра. Брахнуў ён тры разы па-сабачы і як ні бач той — тырк! — яму ілбом у плечы. Плюхнуўся ваўкалак з размаху ў ваду ды пераплыў рэчку.



Талон "Зоркі" н-р 10
10.12.1995

## Пішуць школьнікі

**Дарагая „Зорка"!**

Пішуць Табе вучні Пачатковай школы ў Кленіках.

Не так даўно ў нашай школе адбылося вялікае, незвычайнае свята. У нашу школу завітаў цудоўны госць — беларускі пісьменнік Віктар Швед. З вялікай нецярплівасцю мы чакалі гэтай сустрэчы. Выйшлі нават на аўтобусны паўстанак, каб пабачыць, ці гэта той чалавек, якога паказвала нам на здымках нашая настаўніца. І не памыліліся. Мы ўбачылі пажылога, але сімпатычнага мужчыну.

У сімпатычнай атмасферы адбылася і нашая сустрэча, якую бачыце на змешчаным здымку. Пісьменнік прыемна расказваў нам пра свае маладыя гады і вяртаўся да сучаснага. Як прыемна было пачуць вершы з вуснаў самога аўтара. Дзякуючы гэтай сустрэчы, мы яшчэ больш палюбілі паэзію паэта Віктара Шведа, а на памяць сустрэчы купілі зборнікі яго вершаў.

**Да пабачэння**
**Вучні з Кленік**

## Польска-беларуская панарамная крыжаванка н-р 10

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў, што на польскай мове. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу двух тыдняў. Сярод аўтараў правільных адказаў разыграем цікавыя ўзнагароды — аўтаручкі (cienkopisy).

MGNIENIE
LITERA
WINDA
LITR
FRAK
RZEKA

Адказ на крыжаванку н-р 6: рагоз, жаба, чар, нара, кажан, гара, лоб, зала.

Узнагароды — каляровыя, настольныя календары на 1996 г. — атрымоўваюць:

1) Кася Лукашук з Бельска-Падляшскага,
2) Пятрусь Сянкевіч з Гайнаўкі,
3) Патрыцыя Кос з Ласінкі,
4) Каміля Лабузінская з Кленік,
5) Дарэк Маркевіч з Бельска-Падляшскага,
6) Пятрусь Дзямянюк з Чыжоў,
7) Рафал Сухадола з Нарвы,
8) Івона Сегень з Гайнаўкі,
9) Анэта Садоўская з Беластока,
10) Вучні VII класа Пачатковай школы ў Нарве.

Рашэнне пластычнага конкурсу паводле казкі „Пра малога мядзведзя".

Пахучыя фламастэры ў жараб'ёўцы выйгралі:

1) Януш Таранта — ПШ у Орлі,
2) Агнешка Качаноўская — ПШ у Чыжах.

# Князь Гедымін

У 1316 г., пасля смерці Віценя пасад вялікага князя літоўскага заняў яго сын Гедымін. У гэтым самым часе крыжакі разбілі жамойтаў і адкрылі сабе дарогу ў глыбіню беларускай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага. Каб паўстрымаць паход крыжакоў, князь Гедымін пачаў на паўночным захадзе свае дзяржавы будаваць шэраг замкаў — у Троках, Вільні, Медніках, Навагародку, Лідзе, Мядзелі. Патрэба абараняць краіну ад крыжакоў прымусіла князя перанесці сталіцу бліжэй гарачай мяжы, з Навагародка ў Вільню. Вільня раней называлася Крывіч-горадам і была цэнтрам крывіцкай цывілізацыі. У 1320 г. удалося Гедыміну паўстрымаць чарговую агрэсію крыжакоў, але разбіць іх не хапіла сіл. Нямецкі ордэн быў тады наймагутнейшай краінай у Еўропе. Таму, каб лепей абараняцца перад крыжакамі, Гедымін шукаў саюзнікаў у Каралеўстве Польскім і Княстве Пскоўскім. Дзеля замацавання саюзу з палякамі выдаў нават сваю дачку Альдону замуж за князя Казіміра, сына караля Уладзіслава. Шмат жыхароў Вялікага княства Літоўскага складалі балцкія плямёны. У большасці былі яны язычнікамі. Гедымін прабаваў іх ахрысціць у каталіцкім абрадзе, але не атрымаў падтрымкі ні балцкіх, ні праваслаўных беларускіх феадалаў. Вялікі князь працягваў палітыку яднання беларускіх зямель. Далучыў да свае дзяржавы Міншчыну, Віцебшчыну і Піншчыну. Загінуў падчас вайны з крыжакамі ў 1341 г.

# Малюнкі школьнікаў

*Васілёк адкідае дрэва з зайчыкавай хаткі. Гэтую ілюстрацыю да казкі „Пра малога мядзведзя" намалявала Агнешка Качаноўская, вучаніца VI класа Пачатковай школы ў Чыжах.*

І паснедаў, і папалуднаваў і павячэраў ён тады ўдосыт.

Прайшло колькі часу, і зноў ваўкалаку давялося маліцца. Пасля малітвы пачуў ён: авечкі бэчаць! Выбег ён з лесу, бачыць: вялікі гурт авечак пасецца, а пры іх — пастух са здаравеннай пугай у руках стаіць. Як звочыў ваўкалак пугу, дык і бараніны яму адхацелася — успомніў ён пякучыя пабоі ад сваіх сяброў-чумакоў. А на балючую згадку аж гаўкнуў і то тройчы. Праз якую хвіліну ён убачыў: выбег з лесу той воўк, яго прыяцель, ды проста ў сярэдзіну авечага гурта ўбіўся. Пастух да яго з бічом кі-нуўся, але аніяк цераз згрудžаныя авечкі прабіцца не зможа. Схапіў воўк самую тлустую авечку за вуха ды вывеў са статку. Выцягнуў яе ў поле і, пакуль паспеў пастух, пусціў яе, а сам, падкуліўшы хвост, пабег у лес. Авечка ж думала, што гэта яе сяброўка, — прэ за ім, аж пыл курыць! Так і прыбегла яна ў гушчэчу, а там яны з сябрам уволю бараніны паелі.

Гэтак вось і жыў той ваўкалак колькі часу. То сям, то там нейкую здабычу сабе прыдбае. Аж нарэшце прыблукаўся ён і ў свае родныя мясціны.

Стаяла ўжо позняя восень, людзі якраз па-колішняму Дзяды спраўлялі. Прыгадаў ён, што ў гэтае свята нясуць яны розную ежу на магілкі і там, разаслаўшы на магіле абрусы, частуюцца і мясам, і каўбасаю, і кумпяком. Самі ядзяць ды пра памёршых родзічаў не забываюць: ім самыя смакавітыя кавалкі на магілах пакідаюць. На гэты ўспамін ваўкалаку аж слінка з пашчы пацякла, і што моцы ў нагах паімчаўся ён на могілкі. Але ж спазніўся, небарака, бо святкавалі людзі ўчора і да сёння, за ноч, ваўкі, лісіцы ды іншае звяр'ё ўсё дачыста з магілак змялі. Нюхнуў ён тут, нюхнуў там — усюды адны крышынкі. Але ж бачыць: на адной магіле камень быццам крыху прыўзняты. Ён — туды, а там — бутэлька з гарэлкаю!.. Аж зарагатаў з радасці ваўкалак, калі поўны гляк у яго лапах апынуўся. Ён тут жа прысеў і ўвесь да кропелькі асушыў ды яшчэ і аблізаўся.

Вядома ж — гарэлка не вада. Разабрала яна ваўкалака, як мае быць. І пачаў ён на магілках такія вясёлыя песні спяваць-выводзіць, што аж усяму жывому па ўсёй акрузе шчацце дыбам станавілася. Збегліся і ваўкі, такія вясёлыя спевы свайго сябры чуючы. Глянулі на яго ды нюхнулі і ўсё зразумелі. Схапілі ваўкалака пад пахі ды павалаклі ў абарог, што воддаль могілак у полі са збожжам стаяў. Увалілі яго туды ды снапамі прыкінулі.

Спяваў у абарозе ваўкалак, спяваў аж, урэшце, змогся ды заснуў. Спаў ён ці доўга, ці коратка, але ж прачнуўся ад страшэннага холаду. Зуб на зуб не трапляў — такія дрыжыкі ўсім целам яго трэслі. Згарнуўся ваўкалак у клубок, снапы на сябе нацягае і раптам адчуў, што ўжо няма на ім воўчай поўсці! Мацнуў ён галаву, а там і твар чалавечы і валасы, як мае быць, чалавечыя. Зірнуў па ўсім целе — усё чалавечае!..

Узрадаваўся ваўкалак, аж ускрыкнуў. І адразу заціх, бо і голас ранейшы да яго вярнуўся. Гатовы ён быў выскачыць з таго абарога ды проста да роднай хаты бегчы. Але дзе ж ты, голы ды босы, у такі холад па снезе ды грудзе пабяжыш?! Закапаўся чумак глыбей у снапы ды ляжыць і чакае, пакуль ноч настане: у поцемках неяк жа дадому дабярэцца. Ажно чуе: нехта фурманкаю пад абарог пад'язджае... Прыслухаўся ён — родныя бацька з братам за снапамі прыехалі!..

Радасцям там і канца не было. Родныя ў свае світкі загарнулі чумака ды хутчэй дадому паперлі.

І так той гляк гарэлкі ваўкалака ў чалавека вярнуў. Але здарылася тое даўным-даўно і невядома яшчэ, ці то праўда была. У наш жа час якраз усё наадварот дзеецца: гарэлка з чалавека ваўкалака робіць! Як глянеш на такога, што з гляка насмактаўся, дык і праўда — яму толькі і паўзці ракачам у лес...

**Пачуў і пераказаў**
**Мікола Гайдук**

# Усё было, як у вялікім месце

*Працяг са стар. 1*

„Тыневічанкі" ў бела-зялёных касцюмах.

Вядзе канцэрт Валянціна Ласкевіч, сакратар Галоўнага праўлення Беларускага таварыства. Ведае яна кожную спявачку, ужо шмат гадоў апякуецца калектывам, каардынуе іх працу, дапамагае чым можа. Можа, такім чынам, многае расказаць пра гэтых жанчын. І людзі, што прыйшлі сюды паглядзець, слухаюць яе з задавальненнем: гэта ж яна быццам бы і пра іх гаворыць.

„Тыневічанкі" заканчваюць сваё выступленне песняй „Дзе б ты не пасяліўся", музыку да якой напісала адна з членаў калектыву Ніна Савіцкая. Усе, каму пашанцавала сядзець, устаюць як на гімне. Песня гэта стала сімвалам і ёю канчаюцца многія беларускія мерапрыемствы.

Віншаванням не было канца. Выступалі: войт Нарваўскай гміны Ян Іванюк, дырэктар Нарваўскага асяродка культуры Ірэна Шастай, дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікалай Бушко, намеснік дырэктара аддзела культуры, турыстыкі і спорту Ваяводскай управы ў Беластоку Мікалай Лінкевіч (зачытаў віншавальны ліст ад віцэ-ваяводы). Былі зачытаны таксама віншавальныя лісты ад Генеральнага консула Беларусі ў Беластоку Міхася Слямнёва, дырэктара фабрыкі „Пронар" Сяргея Мартынюка, ад войта Гайнаўскай гміны Вольгі Рыгаровіч. Выступалі члены іншых калектываў, былыя супрацоўнікі. Спецыяльна з Гародні прыехаў Алесь Лойка, які каля года працаваў з „Тыневічанкамі".

Але найлепш віншаваў, бадай, Янка Сычэўскі, старшыня Беларускага таварыства: „Дзякуй, што вы прыносіце людзям усмешку, што вучыце іх, як можна не толькі цешыцца, але і цярпець з песняй".

Дзякуй ім усім — Валянціне Франкоўскай, Анне Дудзіч, Марыі Леўчук, Ніне Леўчук, Вользе Свентахоўскай (дачцэ Мікалая), Яўгеніі Данілюк, Марыі Фірс, Анне Хірко, Софіі Асташэўскай, Вользе Свентахоўскай (дачцэ Лукаша), Ніне Савіцкай ды Сямёну Карнілюку. Няхай, як напісаў консул М. Слямнёў у сваім лісце, „беларуская песня свабодна лунае над Беластоцкай зямлёй".

**Ада Чачуга**

**Фота Сяргея Грынявіцкага**



*Людзі ў клубе сядзелі і стаялі.*

# Беларуская эміграцыя ў Гданьску

Чытачы „Нівы", дзякуючы пастаянным допісам нашых карэспандэнтаў Лены Глагоўскай і Міхася Куптэля, маюць магчымасць пазнаць беларускае асяроддзе ў Гданьску лепей, чым у іншых цэнтрах Польшчы, дзе апынулася нашая эміграцыя з Беласточчыны.

У канцы лістапада трапілася мне нагода быць госцем гданьскіх беларусаў і бліжэй пазнаёміцца з іх праблемамі. Можа памыляюся, але чамусьці здалося мне, што тамашняе беларускае асяроддзе, у адрозненні ад беластоцкага, ці нават варшаўскага, моцна інтэграванае. На сход Беларускага культурнага таварыства „Хатка", які склікала Лена Глагоўская, прыйшла моладзь, людзі пажылыя і ў сярэднім узросце. У размове з сябрамі „Хаткі" я зарыентаваўся, што толькі частка з іх гэта эмігранты з Беласточчыны. Высветлілася, што былі там таксама жыхары даваеннай Віленшчыны, Наваградчыны, Палесся, праваслаўныя і каталікі, хаця гэтыя апошнія ў значнай меншасці. Мне, як прадстаўніку раздзертай усялякімі падзеламі беларускай меншасці з Беласточчыны, прыемна ўразіў не толькі такі грамадскі склад тамашняй супольнасці, але таксама атмасфера сямейнасці, якая адчувалася падчас сустрэчы. Адна з прысутных жанчын заявіла, што падчас такіх сяброўскіх сустрэч у гданьскім клубе Беларускага культурнага таварыства пазнаёмілася там 46 пар, якія пасля пажаніліся.

Шмат гадоў беларусы мелі сваё памяшканне на адной з галоўных вуліц Гданьска, у цэнтры Старога Горада — на Доўгім Таргу. У гэтым самым будынку быў таксама ўкраінскі клуб. Пару гадоў таму назад Галоўнае праўленне БГКТ адмовілася ад гэтых памяшканняў, а гданьскія беларусы, як людзі надта сумленныя, пакінулі тое памяшканне. Украінцы не спяшаліся, асталіся і прабываюць там да сённяшняга дня.

Цяпер Таварыства „Хатка" мае два пакойчыкі ў будынку непадалёк вакзала. Цеснавата там, але ўтульна і блізка да ўсіх сродкаў гарадскога транспарту.

Невялікае асяроддзе гданьскіх беларусаў выдае сваю газетку „Хатка". Лена Глагоўская і Міхась Куптэль працуюць над чарговым нумарам часопіса. Як нідзе ў Польшчы, толькі ў Гданьску сёлета адзначалася гадавіна абвяшчэння незалежнасці Беларусі 25 сакавіка 1918 г. Апрача нашых знакамітых карэспандэнтаў ёсць там яшчэ пару людзей адданых беларускасці як Анна Іванюк ці Аляксандр Юзэфовіч, якія шмат свайго часу прысвячаюць супольнай справе. Прысутнасць беларускай дыяспары ў Гданьску і ваколіцы заўважаюць тамашнія польскія сродкі масавай інфармацыі. Апошнім часам гданьскіх журналістаў найбольш цікавіла, на каго ў прэзідэнцкіх выбарах аддалі свае галасы нашыя суродзічы. Адказу на гэтае пытанне нават не шукалі. Пісалі „в цемно". Так былі ўпэўненыя.

**Яўген Мірановіч**

# Лаўка

у незнаёмым месце
у невядомым месцы
месціцца
перад маім домам
адна
адзінокая лаўка
не-аднавокая
дождж лашчыць
яе шырокую спіну
раны-слёзы
сцякаюць у моцныя ногі
лапкі птушак
песцяць калені і плечы
драўляныя і добрыя
прыходзіць у сябе
ад дотыку чалавека
што адышоў да сябе
незнаёмы і не чужы

**Міра Лукша**

# Студэнцкія атрасіны

Атрасіны БАСу, якія 18 лістапада г.г. адбыліся ў памяшканні БГКТ у Беластоку, прыцягнулі больш за сотню моладзі. Апрача студэнтаў, сярод якіх было больш за дваццаць першакурснікаў, гулялі таксама ліцэісты, звязаўцы і экс-басаўцы.

Афіцыйнае „атрасанне" не пакінула ўражанняў, балазе доўга яно не трывала і не папсавала далейшай гульні.

Самым цікавым момантам лічу канцэрт беластоцкага гурту „Кардон".

А далей беларускі гурт „Рэаль" спяваў і іграў „Як забава, то да рання".

**Г.К.**

*Віктар Ярмалковіч*

# На жыццёвых хвалях

*(працяг; пачатак у 41 н-ры)*

### Тэрор

Пасля арыштаў, якія ў Шчучыне праводзіла разам з немцамі паліцыя Коцата ў прынёманскіх вёсках — у Ладах, Мураўёўцы і іншых — з надыходам другой паловы 1942 г. пачаліся забойствы. На арэну выступіла яшчэ Армія Краёвая. Між ёй і нямецкай паліцыяй не было размежавання. Возьмем для прыкладу сям'ю Коцата: сам Коцат быў у Шчучыне камендантам паліцыі, а ягоны сын і дачка працавалі ў АК, таксама як ягоны зяць Галомбэк — камендант паліцыі ў Ражанцы, і большасць ягоных паліцыянтаў.

Агульна вядома, што АК арганізавалася пры дапамозе, якая ішла з Лондана. У Лідчыне Армію Краёвую ўзброілі яшчэ і немцы, паколькі акаўцы бaранілі іх перад чырвонай — як называлі тут савецкую — партызанкай. Пры такіх абставінах АК не мела перашкодаў у сваёй дзейнасці: праводзіла мабілізацыю, грабіла насельніцтва, выдавала свае прысуды, забівала.

Многа ахвяр каштавала мясцовае насельніцтва дзейнасць АК. Тых, якіх раней Коцатава паліцыя арыштавала і выдала немцам як камуністаў і якія на сваё няшчасце засталіся ў жывых, цяпер ліквідавала АК, абвінавачваючы іх у супрацоўніцтве з немцамі. Фактычна гэта акаўцы былі нямецкімі супрацоўнікамі, бо атрымоўвалі ад іх зброю і выконвалі даручэнні акупантамі заданні.

***

Зіма 1942/43. Начную цішыню Шчучына ўскалыхнулі выстралы. Гэта акаўцы пачалі работу ў самім горадзе, а менавіта напалі на дом Клышэвіча. Іх акцыя была больш меткая, чым немцаў. Цяпер ужо Клышэвіч жывым не выйшаў. Прайшоў нейкі час і чарговая трагедыя спасцігла сям'ю Клышэвічаў. Гэтым разам прыйшлі і застрэлілі сына Юрыя, таксама настаўніка, і паранілі ягоную маці. Тое самае здарылася з сям'ёй Захарэвіча. У ясны дзень у цэнтры горада, у доме, застрэлілі мужа і цяжка ранілі жонку.

Вясною прывезлі ў Шчучын пахаваць трупы дзвюх маладых настаўніц з Ражанкі. Задушылі іх. Рукі ў іх былі выкручаныя, ногі ў сініках, раны на целе. Камендантам паліцыі быў там Коцатаў зяць Галомбэк. Яшчэ свежыя былі магілы настаўніц, як з вядомых ужо Ракавічаў прывезлі новыя ахвяры — свяшчэнніка Аляхновіча і Вольгу Аляхновіч. Тут таксама пахавалі панзверску замучанага селяніна Панкевіча з-пад Васілішак. Застрэлілі таксама настаўніцу Марыю Боську, якая пры саветах была школьным інспектарам у Васілішках.

Над Нёманам немцы збамбілі вёску Сарокі. Прыйшлі акаўцы і расстралялі яшчэ восем чалавек.

***

Лета 1943 года. У сонечны, гарачы дзень прыйшоў да мяне Васюк і расказаў, што да яго прыехаў знаёмы з Ліды. Збіраюцца яны ісці над рэчку і запрашаюць мяне. Дамовіліся разам сустрэцца. Пакуль я аднак скончыў работу і сабраўся разам з іншымі пакарыстацца запрашэннем, Васюк і ягоны знаёмы, не дачакаўшыся нас, адышлі. Пайшлі мы шукаць іх. Не знайшоўшы, затрымаліся пасядзець над вадой. Раптам у адлегласці нейкага кіламетра прагучалі выстралы і сціхлі. Мы вярнуліся ў горад. Ужо па дарозе спаткалі засмучаных і перапалоханых знаёмых. Васюк не жыў. Той ягоны знаёмы быў падасланы з АК. Ён вывеў Васюка за горад, а там ужо іх чакалі.

Так гінулі адзін за адным мае знаёмыя і незнаёмыя — мясцовыя жыхары Шчучынскай зямлі.

***

Белым днём у цэнтры горада, на вуліцы, быў застрэлены настаўнік Аляксей Станкевіч. На такі разгул АК і паліцыі немцы не толькі што не рэагавалі, але яшчэ памагалі ім.

Пад Лідай АК перабіла сям'ю Кучэйкі. Забілі маці, жонку, малых дзяцей. Калі Кучэйка скардзіўся немцам, тыя яго пасадзілі. Правялі таксама арышты ў самім Шчучыне. У арыштце апынуліся доктар Гагалінскі, работнік Карацінскі, настаўніца Заблоцкая, настаўнік матэматыкі з Настаўніцкай семінарыі, сяляне (Трукшын і Балабаны з Мураўёўкі і іншыя). Чалавек ніводнага дня не быў упэўнены, што застанецца ў жывых, увесь час знаходзіўся пад пагрозай паліцэйскай або акаўскай кулі альбо нямецкага арышту.

Так надышла вясна 1944 года. Да гэтага часу сітуацыю ў самім горадзе ў нейкай ступені ратаваў украінскі вайсковы атрад. Украінцы спачувалі беларусам, а з гэтым падраздзяленнем лічыліся немцы і баялася яго АК. Вясной украінскі атрад немцы пачалі выводзіць са Шчучына. Набліжаўся фронт, верхаводамі станавіліся ўзброеныя Лонданам і немцамі падраздзяленні Арміі Краёвай. Далей сядзець у такім становішчы я не бачыў сэнсу. Можна было дачакацца толькі смерці, а яна нашай справе не дала б нічога. Каб нешта здзейсніць, трэба было захаваць жыццё.

Пасля двух гадоў работы, небяспекі і трывог пакідаў я Шчучын, устрывожаных блізкіх, магілы продкаў і надыходзячы фронт. Перада мною было толькі невядомае, чужына, вайна. Але ехаў я не адзін. Быў жанаты.

*(працяг будзе)*

# НАШЫ КАРАНІ

### LXXXV. На першай лініі

Супрасльская лаўра была галоўным цэнтрам беларускай праваслаўнай духовай культуры ў Старабеларускай дзяржаве (Вялікім княстве Літоўскім). Пасля захопу ў 1569 годзе беларускага Падляшша Польскай Каронай, граніца паміж Польшчай і Беларуссю ўсталёўвалася амаль пад сценамі Супрасльскай лаўры. Суседні Васількаў тады апынуўся ў Кароне, а ў сённяшнім Беластоку мяжа праходзіла па рацэ Белай, таму сённяшняя вуліца Варшаўская належала да Вялікага княства Літоўскага, а вуліца Пілсудскага была ўжо ў Каралеўстве Польскім. Тады на Супрасльскую лаўру прыйшлася роля пагранічнай крэпасці праваслаўя і беларускасці. Калі з боку караля і яго двара разам з каталіцкім Касцёлам узмоцніліся націскі на праваслаўную Царкву, каб яна праз унію падпарадкавалася духоўнай уладзе папы рымскага, а беларускае насельніцтва адмовілася ад свае нацыянальнае адметнасці, тады манаская брацыя на чале з духоўным кіраўніцтвам Супрасля з асаблівай актыўнасцю сталі ў абарону незалежнасці праваслаўнай Царквы і самабытнасці беларускай духоўнай культуры. Наступіла поўнае задзіночанне духоўнага і нацыянальнага.

Як у кастрычніку 1596 года ў Бярэсці адбывалася афіцыяльнае аб'яўленне уніі, тады разам з іншымі праціўнікамі гэтага злачыннага акту архімандрыт Супрасльскай лаўры Іларыён і супрасльскі ігумен Генадзій разам з некалькімі прысутнымі на саборы супрасльскімі манахамі адмовіліся прыступіць да уніі. Адначасна яны прынялі актыўны ўдзел у праваслаўным берасцейскім саборы і склалі свае подпісы пад актам, адлучаючым былых праваслаўных іерархаў-здраднікаў, што перайшлі ва унію, ад праваслаўнае Царквы з патрабаваннем ад караля, каб ён пазбавіў іх усіх царкоўных пасадаў і маёмасці.

Супрасльская лаўра ў тым трагічным часе стала для ўсіх праваслаўных беларусаў своеасаблівым сумленнем, душою абаронцаў праваслаўя. Таму і не дзіва, што уніяцкі мітрапаліт Міхал Рагоза неўзабаве пасля аб'яўлення уніі ў Бярэсці падаўся ў акружэнні сваіх прыхільнікаў у Супрасль і стаў прымушаць манахаў перайсці на унію. Аднак супрасльская брацыя наадрэз адмовілася здрадзіць праваслаўю, і Рагоза ні з чым пакінуў Супрасль. Цікава, што ніякіх варожых дзеянняў супраць Лаўры мітрапаліт не ўчыніў, відаць пабойваўся выклікаць выступленні супраць уніі ва ўсёй Беларусі. Пасля гэтага два гады Супрасльская абіцель жыла ў спакоі і служыла праваслаўю.

Але ў 1598 г. мітрапаліт Рагоза памёр, яго наступнікам настаў заядлы насаджальнік уніі Іпацій Пацей, які любою цаною рашыў знішчожыць праваслаўе ў Супрасльскай лаўры. Ён прыехаў у Супрасль, сагнаў усіх яго насельнікаў у Свята-Благавешчанскі храм і аб'явіў далучэнне Лаўры да уніяцкага Касцёла. У адказ на такое нахабства манаская брацыя склала пратэст. У ім гаварылася, што папа рымскі не мае ніякіх правоў да праваслаўных веруючых і царкоўнай уласнасці, якія падлягаюць канстанцінопальскаму патрыярху. Паводле законаў, прынятых сямю Усяленскімі Саборамі, папа рымскі не ёсць ні першы, ні вышэйшы сярод іншых патрыярхаў, бо першынство дадзена толькі патрыярху канстанцінопальскаму. Таму манаская брацыя не прызнае над сабою ні ўлады папы рымскага, ні ягонага падуладнага Пацея, прытым лічыць яго ерэтыком, які адступіў ад свяшчэнных канонаў. Манахі заявілі, што разам са сваім архімандрытам будуць непахісна стаяць у праваслаўнай веры, нават калі б ім за тое пагражала смерць. Абураны Пацей, выкрыкваючы пагрозы, пакінуў Супрасль.

Архімандрыт Іларыён і згуртаваная пры ім манаская брацыя ўсведамлялі, што пачалася смяротная барацьба за існаванне праваслаўнай Супрасльскай лаўры. Яны сталі шукаць падтрымкі ў іншых праваслаўных манастырах, у тым ліку ў Кіева-Пячэрскай лаўры. Але бяспраўнае становішча праваслаўнай Царквы ў Рэчы Паспалітай нікому не дазваляла якім-колечы чынам дапамагчы атакаванаму Супраслю. Болей таго: з іншых праваслаўных манастыроў, якія заганяліся ва унію, уцякала мноства манахаў і шукала паратунку ў Супраслі. Супрасльская брацыя звярнулася за падтрымкай да свайго апекуна Іераніма Хадкевіча. Яны склалі абшырнае пасланне *Новозложеное поучение во Літвании нарицаемым Логофетом* і падалі яго Хадкевічу. У *Поучении* яны гаварылі пра трагічную падзею, калі праваслаўныя апекуны манастыра Іаан і Васілій Хадкевічы перайшлі ў каталіцызм. Іаан прыняў імя Іераніма, а Васілій — Хрыстафора. Аўтары просяць свайго апекуна дапамагчы ім захаваць у Супрасльскай лаўры спрадвечную праваслаўную веру яго продкаў. Прытым яны выкладаюць асновы праваслаўнай веры і папярэджваюць пра згубнасць пераходу ў каталіцызм.

Тым часам Пацей падаў на архімандрыта Іларыёна ў суд, абвінавачваючы яго ў непадпарадкаванні ягонай уладзе. Іларыён не прызнаваў улады Пацея і на суд не з'явіўся. Тады Пацей паскардзіўся каралю і Зыгмунт III Ваза адразу вынес прысуд: *Мы не терпячи в панствах наших такого своволъства преченнаго выше реченного Лариона Масальского яко бунтовщика старшему преложеному пастыруи зверхности нашой государственной противного зе всех земель и панств наших выволал есмо велели и сим листом выволанцом его чиним.* Такім чынам кароль — ініцыятар і вялікі прыхільнік уніі — пазбавіў архімандрыта Іларыёна яго духоўнай пасады, усёй маёмасці і выгнаў з краіны. На архімандрыцкі пасад у Супраслі быў пастаўлены вельмі пакорлівы і паслухмяны Пацею уніят Герасім, а зменены ўстаў манастыра катэгарычна забараняў знаходзіцца ў ім праваслаўным манахам.

Нейкі час архімандрыт Іларыён хаваўся то ў Супраслі, то ў Заблудаве. Потым чатыры гады бадзяўся па свеце і ўрэшце, стары і хворы, ён праз Іераніма Хадкевіча папрасіў у Пацея *милосердного учинку, а улитовавши христианско надемной худым еже во Христе братом своим, мне мейсцем яким хлеба духовного причиной ласкавой своею до его королевские милости залетил и управить рачил.* Ягонае благанне падтрымаў Хадкевіч, просячы караля *дать ему место духовного хлеба.* Гэтае скарэнне і паніжэнне архімандрыта Іларыёна (родам з княскага роду Масальскіх) было надзвычай карыснае для прапаганды уніі, і яго ў 1607 годзе вярнулі ў Супрасль. Хаця Іларыён прызнаў над сабою ўладу Пацея і гэтым самым папы рымскага, пад яго кіраўніцтвам Супрасльская лаўра зноў стала асяродкам праваслаўнай беларускай культуры і духовай апорай праваслаўным. Архімандрыт Іларыён памёр у 1609 г., але яшчэ некалькі гадоў у Супраслі панавалі ім заведзеныя парадкі і праваслаўны дух. Тады дыякан Супрасльскага манастыра Афанасій Сяліцкі склаў малітву, у якой гаварылася:

*Утверди нас, Господи, у вери стояти,*
*А от Востока к Западу*
*не отступати.*

Спрыялі захаванню нейкай ступені незалежнасці Лаўры ад уладарання уніяцкага мітрапаліта апекуны манастыра Хадкевічы, асабліва Хрыстафор, хаця на іх востра націскалі каталіцкія і уніяцкія іерархі ды сам кароль, каб Супрасль ператварыць у базу уніятызму. Хадкевіч абараняўся не столькі ад уніі, колькі ад страты манастыра, які фактычна быў ягонай уласнасцю. Аднак пад націскам Касцёла і каралеўскага двара ён паступова здаваў пазіцыі. Ужо ў 1612 годзе Супрасльская лаўра стала уніяцкай, а пасля смерці уніяцкага мітрапаліта Іпація Пацея (1613) наступ на яе яшчэ болей узмацніўся. Пераемца Пацея — мітрапаліт Вельямін Руцкі, між іншым, родам з пратэстанцкай сям'і, які некалькі разоў перабягаў з праваслаўя ў каталіцызм, выхаванец ватыканскай школы місіянераў на Русь, дабіўся ў караля і апостальскага нунцыя свае поўнае ўлады над Супрасльскай лаўрай. У выніку 31 сакавіка 1635 года ёй сілай і гвалтам быў накінуты устаў уніяцкага базыльянскага манастыра. Галоўным жа заданнем базыльянаў было ўсялякімі спосабамі заганяць праваслаўных ва унію. Руцкі вельмі пільна сачыў за тым, каб у Супраслі ўсё адбывалася згодна з заданнямі, вызначанымі базыльянскаму манастыру, часта візітаваў Лаўру сам і высылаў сваіх паплечнікаў, каб строга і пільна наглядалі за дзейнасцю законнікаў.

З таго часу, як піша вядомы даследчык мінулага праваслаўя на Падляшшы д-р Антон Мірановіч, *Супрасльскі манастыр стаў ва ўсім падобны на базыльянскія манастыры і страціў значэнне як цэнтр багаслоўскай думкі і культуры.*

**Мікола Гайдук**

### Ой, вярнуся ў родны край...

*Павязу я сваю долю*
*на торг прадаваці.*
*Людзі знаюць горку долю —*
*не хочуць купляці...*

Ой, вярнуся ў родны край
людзей намаўляці,
каб любілі родны край,
мову сваёй маці,
шанавалі мазалі,
рукі працавітыя
і дзяўчатаў маладых
губы сакавітыя,
зберагалі дзедаў дом,
наказ дружна жыці
і сакрэт — мудры „залом",
што рабілі ў жыце,
і нягоды, і вайну
з маскалямі ў полі:
здабывалі перамогу,
зберагалі волю...
Адстойваці незалежнасць
неабходна смела,
бо здрада наўкол нас,
крумкачы абселі.
Выганяйце крумкачоў —
няма ў нас мерцвячыны!
Усе да зброі, як адзін
за сваю Айчыну!

**Сымон Шаўцоў,**
Аўстралія

26-я нядзеля пасля Пяцідзесятніцы

## Пра адзначэнне святаў

*(Лукі, 13: 10-17)*

У 26-ю нядзелю прыпадае чытанне з 13-га раздзела Евангелля паводле Лукі. У ім гаворыцца пра аздараўленне Хрыстом скрыўленай жанчыны. Цуд меў месца ў святочны дзень, у суботу, што выклікала рэзкую крытыку з боку фанатычна настроеных фарысеяў. Яны шмат разоў папракалі Хрыста ў незахоўванні святочнага дня. У адказ Ісус заявіў: „Крывадушнік: Ці ж не адвязвае кожны з вас вала свайго ці асла ад ясляў у суботу і ці ж не вядзе паіць?" Хрыстос даказваў, што чалавек і ягонае дабро важнейшыя за мёртвую літару закону, што „не чалавек для суботы, але субота для чалавека". Запавет: „Памятай дзень суботні, каб святкаваць яго. Шэсць дзён працуй і выконвай усе працы свае, а сёмы дзень — субота — Госпаду Богу твайму" быў дадзены па вобразу шасцідзённага стварэння свету і таго, што ў сёмы дзень Тварэц супачыў ад працы сваёй. Запавет выконваўся вельмі строга і, на думку Хрыста, успрымаўся надта літаральна. Бо ў сапраўднасці што важнейшае: чалавек ці свята, жыццё і здароўе ці безагаворачнае выконванне закону? Хрыстос даказаў, што часам бесчалавечнае выконванне закону пярэчыць духу закону. Ён здзяйсняў цуды, не зважаючы на святочны дзень. Гэтак, як зямля кожны сёмы год заставалася незааранай, так і чалавек павінен быў памацнець для далейшай працы. Аздараўляючы таксама ў суботу, Ён падкрэсліваў, што якраз у гэты дзень павінны атрымаць назад жыццё і здароўе тыя, хто іх страціў.

Хрысціяне таксама прынялі запавет аб спачынку сёмага дня, аднак у памяць Уваскрэсення Хрыста святочным днём пачалі лічыць нядзелю. Па прыкладу апосталаў, якія ў першы дзень тыдня збіраліся на малітву і праламленне хлеба, хрысціяне ўсіх канфесіяў адзначаюць гэты дзень малітвай і ўдзелам у багаслужбах. У наш секулярызаваны час назіраецца заняпад традыцыйнай пабожнасці і царкоўнай дысцыпліны. У заходніх краінах храмы ў нядзелю напалову пустыя. У нас яны перапоўненыя, але трэба ўлічваць, што іх вельмі мала. Не ўсе вернікі ўсведамляюць сабе патрэбу калектыўнай малітвы і значэнне святочнага дня. Для многіх людзей летам надта горача, а зімою надта холадна, каб ісці ў царкву, але гэта слабыя агаворкі. „Свята, — пісаў Уладзімерскі епіскап Феафан, — гэта не проста бяздзейнасць, але радаснае трыумфаванне духа ад усведамлення вялікіх ласкаў Божых". Асэнсаванне Божай апекі на працягу тыдня павінна выклікаць пачуццё ўдзячнасці. Магчыма, што не ўсё адбылося паводле нашай думкі, аднак магло быць яшчэ горш. Магчыма, што не было вялікага шчасця, можа камусьці паводзілася лепш, але не найгорш і нам. Нават за той факт, што жывем, выпадала б падзякаваць Богу, бо ў любы час можа нас не быць.

Нядзеля павінна быць днём прымірэння з Богам, аднаўлення парушанай лучнасці з ім. У тыдні, дзеля заробку мы займаемся зямнымі справамі. Часта прыходзіцца нягодна думаць і нягодна паступаць, паддаючыся дэмаралізуючаму ціску асяроддзя. Ці спакушаюць нас абставіны ці канкрэтныя людзі, мы проста здрадзілі свайму прызначэнню і зышлі з належнага шляху. Вось таму ў нядзельнай багаслужбе трэба папрасіць прабачэння ў Бога за ўсё занядбанае дабро і за ўчыненае зло.

Ад найдаўнейшых часоў Царква заклікала святкаваць нядзелю і святочныя дні, аднак без фарысейскага фармалізму. Ёсць працы, якія мусяць выконвацца таксама і ў свята, але тыя, якія можна адлажыць на будні дзень, рэкамендуецца не выконваць. Ад працы ў нядзелю яшчэ ніхто таксама не пабагацеў. Сінод у Эльвіры выключаў з ліку вернікаў тых, хто тры нядзелі падрад без істотнай прычыны адсутнічаў у царкве. Сінод у Макон у 585 годзе забараняў праводзіць у нядзелю судовыя працэсы, запрагаць валы і нават караць розгамі слугаў. У VII стагоддзі Феадор, епіскап Кантэрбэры, забараняў у нядзелю падарожнічаць за выняткам даезду ў храм. Англійская каралева адмаўлялася ў нядзелю ад свайго экіпажу.

Зараз Царква нашмат больш ліберальная ў сэнсе дысцыпліны і не ставіць такіх строгіх патрабаванняў як раней. Для верніка, аднак, належнае ўшанаванне свята павінна быць справай унутранай патрэбы. Ясна, што знайшліся б прыемнейшыя заняткі, аднак належачы да Царквы маем таксама і абавязкі. Разумнае аднаўленне фізічных і духоўных сілаў, прымірэнне з Богам і са сваім сумленнем ляжаць у інтарэсе самога чалавека. Вось таму актуальным застаецца старажытны запавет: „Памятай дзень суботні, каб святкаваць яго".

**Канстанцін Бандарук**

# Антон

Антон Аліфярук не думаў у той вечар выбірацца ў госці. Ідучы ад аўтобуса з работы марыў добра памыцца, ухапіць што ў рот на хуткую руку, пакуль зварыцца бульба ды падсмажацца два катлеты, якія купіў на паўфабрыкатах, адкінуць ногі на тапчане... Уключыць тэлевізар, пагартаць „Зоркі кажуць" — паглядзець гараскоп на другі тыдзень: што цікавага можа яго спаткаць.

А што можа яго чакаць! Дзеньштодзённы — работа, фільм і сон. Цыгаркі. Падарожжа да бацькоў у вёску. І нічога больш асаблівага. На танцы ўжо не хадзіў — на маладзёжныя дыскатэкі лічыў сябе Антон застарым, на „дансінгі" ў рэстаранах не меў такое пары, каб варта было на яе выдаваць такія грошы. Трыццаць пяць гадоў — мяжа маладосці, так лічылі ўсе наўкол Антона. А якую цяпер кампанію яму, „утылізаванаму кавалеру" шукаць — ці маладую, „неаперанную" дзеўку, якой мела быць ягоная Магда? Думаў, яна нявінны і наіўны падлётак ледзь пасля „матуры", а яна не была ні нявіннай, ні тым больш наіўнай. Пра такіх гавораць, што „не з адной печы хлеб ела". Калі ўжо было запозна — нарадзіўся Вітак — убачыў Антон голым вокам, што сабе знайшоў палову не да пары. Жонка, лянівая ды бяздарная, не паказвала нават віду, што хоча быць гаспадыняй, маткай і жонкай.

На разводнай справе было шмат істэрыкі, віску ды плачу. Але развод практычна мала змяніў у жыцці Аліферукоў. Амаль два гады жылі ў кватэры Антона. Магдзе суд пакінуў дзіцё, як найчасцей рашае суд у такой справе, але малым далей займаўся бацька. Шукаў сабе кватэру — дом меў астацца пры жонцы, разам з дзіцём, а Антонаву частку мела яна выплаціць. Не хапала, што хату сплаціў са сваіх ашчаднасцей, грошай, зароблены у Іраку, з дапамогай бацькоў! Вядома, адкуль было ўзяць Магдзе тыя мільёны, калі нават не плаціла за кватэру? Не прапівала, жыла за Антонавы аліменты для малога... Назбіралася таго каля дваццаці мільёнаў. Грошы ў касу жыллёвага кааператыва заплаціў Антон пасля заявы адміністрацыі, што пададуць Аліферукоў у суд і зоймуць кватэру.

Пасля года пачаліся паяўляцца ў Магды немалыя грошы, але відна працавала яна ноччу, бо выходзіла па вечарах. Антон забіраў малога з садка, карміў, мыў, укладваў яго спаць, вечарамі глядзеў фільмы ў сваім маленькім тэлевізарыку ў малым пакойчыку, а былая жонка вярталася на досвітку (прывозілі яе на машыне), валілася спаць, нават не змыўшы „марафет". Раніцай Антон рыхтаваў сабе і сыну сняданак, адводзіў яго ў садок, сам падаваўся на будову...

Аж урэшце навіна — у Магды зноў будзе дзіця. Зусім як адмянілася, пачала раней хадзіць спаць, выязджаць на выхадныя. Урэшце знікла на тры месяцы. Прывёз яе малады мужчына з крыклівым немаўляткам. Занялі два пакоі. Вітак прытуліўся да бацькі — у свой пакойчык Антон перанёс ложак малога, уже нармальны, вялікі, без штыкецінак; Вітак адчуваў сябе дарослым, стараўся зразумець — у яго цяпер два таты.

Януш, той маўклівы Магдзін партнёр, які трактаваў гаспадара як паветра, здабыў зганыя 150 мільёнаў; меў магчымасці, займаўся гандлем. Антон забраў свае манаткі і трохі мэблі (свае выбітыя два зубы схаваў у пушачку запалак, як калісьці ў дзяцінстве „для мышкі"). Тыя зубы панёс у паліцыю: вось пабіў мяне жончын муж. Дзе? У нашай кватэры, там, дзе прапісаны. Але ж там і Януш Дарманскі прапісаны, як муж Магдалены Д. А ён сведчыць, што Антон Аліфярук прыставаў да былое жонкі, дамагаецца ящчэ больш грошай, да таго ж хоча ўкрасці сына, якога пад апеку аддаў матцы суд! Ці ёсць сведкі? Могуць гэта пасведчыць сама Магдалена Дарманская і яе госць Стэфан К., пры якім грубіяніў і ніштую рэчы пан Аліфярук, да таго ж яўна абяцаў помсту сужонству Дарманскіх!

Прыйшлося без агаворак шукаць Антону новае прытулішча. Наняў пакойчык у самотнай пенсіянеркі — прасіла яго толькі ціха быць і не брудзіць, да таго ж „nie sprowadzać". Не прыводзіў паненак нанач, выпіваў зрэдку ў кампаніі сяброў у іх сем'ях, курыў няшмат, а дым выпускаў за акно, а акуратнасці магла б Антону пазайздросціць не адна чысцюля-дама — бабуля была рада мець такога кватаранта. Антон цешыўся спакойным жыццём, адно яго толькі турбавала — з сынам мог бачыцца толькі ў школе, Магда не хацела, каб заходзіў у іхнюю хату, на святы не пускала Вітка ні да бацькі, ні да дзядоў у вёску. Вітак скардзіўся бацьку, што няма цяпер для яго месца ў хаце, што найважнейшая — малая Каміля, а „тата Януш" ужывае рэмень...

У госці не думаў Антон выходзіць у той дзень, калі застукаў у дзверы яго дваюрадны брат Яўген.

— Чаго ты, Антось, зваліўся як сноп? Распусціў нюні, што табе свет нямілы? Збірай старыя косці, пойдзем пагуляць у госці! — густы Яўгенаў барытон падарваў Антона на ногі.

Пабег бы адразу, але ж трэба пераапрануцца, пагаліцца... Раздушыў Антон цыгарэту ў попельніцы, доўга глядзеў у раскрытую шафу, урэшце выцягнуў швэдар і джынсы.

— Ну ты што, апраніся як след! Касцюм, гальштук, белая кашуля... Не, лепш начапі муху! — Яўген прымерыў да Антонавай майкі аксамітную муху.

— Ну, файна!

— Ты што, у сваты мяне вядзеш, так ці не?

— А хто нас возьме, Антось, калі мы самі не захочам? Ну, яшчэ шкарпэткі, пантофлі... Ну, цуд, не *фацэт*!

Чым больш комплексна быў апрануты Антон, тым больш весялеў. На вуліцы зусім акрыяў.

Паненак было дзве — белая і чорная. Значыць, дзеўка была адна — тая фіялетава-чорная фарбаваная поўненькая весялушка, новы Яўгенаў „улоў", а стройная бландзінка з вострым носікам, удава — прапанавалася Антону. Усё ж — сваты, інакш не скажаш.

Глянулі Антон і Марыся ў вочы адно аднаму, і ведалі ўсё.

Сустракаліся паўгода. Планавалі пасяліцца разам, узяць шлюб. Яшчэ вясной бачылі іх разам. На Свята незалежнасці сустрэла я Антона аднаго. А дзе ж Марыся?

— Не для мяне яна. Ведаеш, што яна зрабіла?! Гэта страшны чалавек! Я думаў, што такое, як яна, няма ў свеце, а яна так!..

Што зрабіла Марыся?

Нервавалі яе галубы, што як апантаныя лёталі каля балкона, мецілі пасяліцца ў кветніках, сядалі на парэнчы, вуркаталі, тупалі, брудзілі!.. Пачаставала іх Марыся атручаным зернем. Не прылятаюць ужо крылатыя госці на велізарны, чысты, уквечаны Марысін балкон, не наведвае яе і Антон.

**Міра Лукша**

---

## Кінь курыць разам з намі!

Пад такім лозунгам грамадскасць свету даводзіла да нашай свядомасці (16 лістапада) аб шкоднасці курэння. У сусветным маштабе гэта ўжо дваццатая такая акцыя.

У нашай краіне Дзень без папяросы адзначаецца ўжо шосты год. Не трэба разумнаму чалавеку тлумачыць, якую шкоду нашаму здароўю наносіць курэнне папяросаў. Я сам у гэтым пераканаўся. Мяне як падростка маніў сіні дымок. Ужо ў пачатковай школе, за грошы, якія бацькі давалі на бутэрброды, купляў папяросы. Здавалася тады, што на мяне кожны прыглядаецца як на дарослага мужчыну. Не разумеў, бо не было каму толкам растлумачыць, якую шкоду сабе раблю. Папаў у дрэнную звычку курэння на цэлыя пятнаццаць гадоў.

Зараз ужо дваццаць сем гадоў будзе як кінуў курыць. Зусім іншым чалавекам сябе адчуваю. Прапаў кашаль, які мучыў мяне безупынна, хаця не быў я прастуджаны. На грудзях лягчэй стала, з рота не смярдзіць. Таму шчыра гавару: варта кінуць курэнне папяросаў!

Як даказвае статыстыка, амаль дзесяць мільёнаў грамадзян нашай краіны папала ў залежнасць ад нікаціну.

Кураць мужчыны, жанчыны, падросткі. У цягніку неаднойчы бачу, як па некалькі дзяўчынак-вучаніцаў ідуць у туалет. Кожнаму вядома дзеля чаго ідуць яны разам. Аднак ніхто не звяртае на гэта ўвагі. Ахапіла ўсіх абыякавасць на ганебныя паводзіны нашай моладзі.

Няўжо бацькі не ведаюць, што іх сынок ці дачушка смаляць папяросы? А настаўнікі ў школе? І адны, і другія прыплюшчваюць вочы.

На маю думку, пара прабудзіцца з дрыматы і супольнымі сіламі супрацьставіцца паталагічным з'явам у нашым грамадстве.

Курэц — хворы чалавек. Значыцца ў краіне амаль кожны чацвёрты чалавек павінен задумацца над станам свайго здароўя. „Кінь курыць разам з намі!" — няхай гэты лозунг трымаецца ў нашай памяці не толькі ў час акцыі, але кожны дзень, у кожную пару ночы і дня. Мо тады толькі станем здаровым грамадствам?!

**Уладзімір Сідарук**

---




Białoruskie Zeszyty Historyczne nr 1(3), Białystok 1995; Rec. (jon), *Kurier Poranny* 12.09.1995 r., s. 9; (kk), *Gazeta Współczesna* 8.09.1995 r., s. 6; (K. r.), *Czasopis* 1995, nr 10, s. 26; (ota), *Przegląd Prawosławny* 1995, nr 10, s. 41.

GAWRYLUK Andrzej: Wolność dla Białorusi. *Dziennik Pojezierza*, Olsztyn 26.09.1995 r.; *Gazeta Warmia i Mazury*, 30.09.1995 r.

Gostev Aleksander P., Šved Vjačeslav V.: Kronon. Letopis' goroda na Nemane (1116-1990). Grodno 1993, ss. 329; Rec. MILEWSKI Jan Jerzy, *Studia Podlaskie*, T. 5, Białystok 1995, s. 327-330.

Łabyncew Jurij, Szczawińska Łarisa: W mieście zwanym Zabłudowem. Przekł. Mikołaj Hajduk. Wyd. Orthdruk, Białystok 1995, ss. 96, il.; Rec. (ota): Całemu prawosławnemu światu. *Przegląd Prawosławny* 1995, nr 11, s. 43.

MARKIEWICZ Beata: Nauczanie religii prawosławnej w języku miejscowym. Filia Uniwersytetu Warszawskiego w Białymstoku, Wydział Pedagogiki i Psychologii, Białystok 1995, ss. 115, mnps.

MIRONOWICZ Antoni: Źródła rzymskie do dziejów Cerkwi na Białorusi i Ukrainie w XVII wieku. *Gryfita* 1995, nr 9, s. 13-14.

MODLINGER Jerzy: Słowiańska kolebka. (Wyniki wyborów i referendum na Białorusi). *Polityka* 1995, nr 22, s. 19.

(PAP): Związkowa solidarność. Region Białystok "S" chce pomagać związkom na Białorusi. *Kurier Poranny* 4.09.1995 r., nr 202(1507), s. 3.

Sosna Grzegorz o., Fionik Doroteusz: Dzieje Cerkwi w Bielsku Podlaskim. Wyd. Białoruskie Towarzystwo Historyczne, Białystok 1995; Rec. HAJDUK Mikołaj, *Przegląd Prawosławny* 1995, nr 11, s. 41.

STECKO Paweł, NOSOWICZ Jan: Pol'ska-belaruskae leksičnae uzaemadzejanne. *Białostocki Przegląd Kresowy*, T. 1 (1994), s. 71-75.

Waldenberg Marek: Kwestie narodowe w Europie Środkowo-Wschodniej. Warszawa 1992; Rec. CHMARA Michał, *Sprawy Narodowościowe* 1994, z. 2, s. 281-283.

**Р. С.**

---




## ЗБМ — новае тлумачэнне

**Паважаны Спадар Галоўны Рэдактар Тыднёвіка „Ніва"**

Я, як старшыня ЗБМ а заадно галоўны арганізатар Фестывалю „Бардаўская восень — Бельск'95", патрабую, каб рэдакцыя „Нівы" на першай старонцы перапрасіла ўсіх, хто прымаў удзел у фестывалі ці хаця дапамагаў мне яго арганізаваць, а таксама ўсіх, каго абразіў тэкст азагалоўлены „ЗБМ — новае тлумачэнне" („Ніва", н-р 46 ад 12 лістапада 1995 г.).

Маю толькі надзею, што Вы дапусцілі да друку гэты тэкст не ведаючы, што ён не мае аніякага дачынення да фактаў, ды ў мностве спраў не звярнулі ўвагі на яго шкоднасць для ўсіх беларусаў Беласточчыны ды не толькі.

Маючы на ўвазе хлусліві і з'едлівы характар згаданага матэрыяла, не збіраюся весці аніякае палемікі, бо няма з кім. Калі Вашая газета зацікаўлена ў высвятленні праблемы, магу дапамагчы. Толькі не прысылайце, калі ласка, рэдактара з падыходам да жыцця „п'янага Колі на забаве ў Цінявічах", які, дастаўшы раз па мордзе, гатовы разагнаць усю патанцоўку ды дзесяць наступных, каб толькі абараніць спрэчную годнасць. Чалавек годнасцю толькі аднаго мардабою не зразумее мяне і яшчэ раз напіша нейкую дурніцу.

Застаючыся з пашанай да Вашае асобы.

**Старшыня Звязу беларускай моладзі Багдан Сіманенка**

**Ад рэдактара:**

**Паважаны Спадар Багдан Сіманенка, старшыня Звязу беларускай моладзі**

Вы напэўна заўважылі, што ўжо некалькі гадоў журналісты ў Польшчы не маюць абавязку пытаць ніякай „вядучай сілы" як ім трэба прадстаўляць паасобныя падзеі, факты, ахарактарызоўваць людзей і арганізацыі. Сталася неяк так, што ўсё гэтае прадстаўляецца паводле суб'ектыўных уражанняў і аб'ектыўных ведаў кожнага, хто нешта піша.

Арганізацыю, якую Вы ўзначальваеце, кожны чалавек, які сутыкнуўся з яе дзейнасцю, бачыць па-свойму і мае права на свае ацэнкі. Гэта справа індывідуальнага бачання свету, дадзеная натурай кожнаму чалавеку, у тым ліку і журналістам „Нівы".

Інцыдэнт, які здарыўся падчас „Бардаўскай восені", назірала трох журналістаў нашага тыднёвіка і ўсе яны мелі падобныя ўражанні. Аб'ектам жарту нашага журналіста не ёсць тады такі ці іншы ход падзеяў у Бельскім доме культуры, але менавіта той імідж арганізацыі, які вы самі сабе стварылі.

Артыкул „ЗБМ — новае тлумачэнне", пра які Вы згадваеце, быў толькі жартам, а ў ніякім выпадку апісаннем фактаў. Матэрыял гэты, як Вы напэўна заўважылі, быў змешчаны на старонцы гумару і сатыры, дзе наогул друкуюцца весткі, якія ўспрымаюцца „z przymrużeniem oka". Дарэчы, не бачу прычын, для якіх нельга жартаваць з маладых людзей, якія прынцыпова, згодна свайму ўзросту, маюць натуральнае пачуццё гумару. Не веру, што актывісты Звязу, авангарда беларускай моладзі Беласточчыны, адрозніваюцца нечым ад сваіх равеснікаў і нейкі сатырычны тэкст успрымаюць паводле логікі зэтэмпоўскіх дзеячаў. Але калі, як пішаце, хтосьці з іх пачуўся абражаны, тады, натуральна, перапрашаем. У галаву аднак нікому з нас не прыйшла думка, каб каго-небудзь абражаць, а тым больш самую надзейную і таленавітую нашую моладзь — актывістаў Звязу.

**Яўген Мірановіч**




## Снежань

Месяц снежань —
Гэта ўжо зіма:
Арктыкай снежнай
Нас усіх абняла.
Абдымае холадам
Бедных і багатых,
Можа пакараць і голадам
Лодыраў заўзятых.
У яго ўсе роўныя,
Хто ў яго абсягу,
Простыя і модныя —
Возьмем пад развагу.
Ён прынёс і снег,
Холад і мароз.
Для дзяцей мо і смех —
Кусае за вушы і нос.
Апошні месяц года
З чым на нас чакае?
Ад вякоў і родаў
Тайны пасылае.
Ведаем тое, што прайшло
І то не ў цэласці,
Віхрам панясло,
Трэба Божай спеласці.
Кожнага з нас
Бог да працы ангажуе.
Адкінем мы маразм —
У сэрцы спакой запануе.
Месяц снежань суровы —
Немцы пад Масквой апякліся,
І пра французаў шмат мовы,
Рускія ім не здаліся.
Напалсона снежань пагубіў
І немцаў у 1941 годзе.
Рускі дух ажыў
У яго народзе.
У снежні дні марозныя
І лепш сядзець у хаце,
І хоць бываюць розныя,
Не мода хадзіць у халаце.
Аднак і ў снежні свет жыве,
Прырода, хоць суровая,
Рытмам сваім плыве
Заўсёды свежая і новая.
Скора ўжо Нараджэнне
Хрыста-дзіцятка
І ў сэрцы будзе аднаўленне —
Жывем мы не ў парадку.
Нездарма і Хрыстос прыйшоў
І на зямлі радзіўся,
Мяне, цябе, чытач, найшоў
І нізка пакланіўся.
Цяпер наша чарга пакланіцца
І Яму сэрцы аддаць,
Нанова нарадзіцца
І Хрыстовы дар прыняць.

**Мікалай Панфілюк**

## Хіба зноў пачну пісаць

Доўга я пісаў у „Ніву”,
Думаў ужо перастаць,
Ада сэрца скаланула,
Хіба зноў пачну пісаць.
Апісала Ада праўду,
Дзядзька Квас як пражываў.
З Каўпакоў Катлы зрабіла
І за гэта два, не пяць.
Пасылаю прывітанні
Калектыву „Нівы”, усім.
Поспехаў і дасягненняў
У творчасці іх і ў жыцці!
Каб шчасліва вам жылося
У сямейнаму жыццю,
Радасна каб успаміналі
Нашу родную зямлю.

**Мікола Лук’янюк**

# Снежань...

... як і ўся зіма — вельмі цяжкі перыяд для жывёльнага і расліннага свету. Таму ў ходзе эвалюцыі расліны выпрацавалі спосабы перажывання неспрыяльных умоў, такіх як: паніжаныя тэмпературы, недахоп пажыўных рэчываў і кармоў. Напрыклад, насякомыя перажываюць зіму на холадаўстойлівых фазах яек (многія жукі, матылі), лічынак (камары, стракозы). Пчолы зімуюць сем’ямі ў так званых „клубах”. Некаторыя рыбы і паўзуны, а таксама частка млекакормячых — вожыкі, кажаны, суслікі і іншыя прыстасоўваюцца да зімы з дапамогай спячкі. Яноты або хамякі ўпадаюць у зімовы сон, які адрозніваецца ад спячкі меншым зніжэннем тэмпературы цела і працэсаў абмену рэчываў.

Птушкі да зімы пералятаюць у цёплыя землі, частка жывёл і рыб мігруе ў больш спрыяльныя для жыцця ўмовы. Тыя, што застаюцца зімаваць, у выніку асенняй лінькі набываюць густую поўсць або ахоўную афарбоўку. Адначасова яны назапашваюць энергію ў выглядзе падскурнага тлушчу, глікагену ў печані і інш. Многія з восені робяць запасы, ствараюць сховішчы. Пад аховай снегу зімуюць мышы, палёўкі, землярыйкі.

Як вядома, аднагадовыя расліны (кроп, лябеднік) зімуюць у форме насення, шматгадовыя травяністыя (пырнік, хвошч, лілеі і інш.) — у выглядзе жыццяздольных органаў: парасткаў, цыбулін або карэнічшаў; з іх вясной паяўляюцца новыя парасткі і лісце.

Дрэвы і кусты на зіму скідваюць лісце і лепш пераносяць холад і абязводжванне, „зімовую засуху”. Хвоя і елка скручваюць ігліцу, што папярэджвае ўтварэнне лёду і вымарожванне вады ў тканках.

(яц)

## Народныя прыкметы

Снежань зямлю грудзіць, хаты студзіць.

Калі вароны ў добрае надвор’е крычаць на ляту, то будзе зімою снег, а летам дождж.

Варвара ночы ўварвала, а дня прытачыла. Цёплае надвор’е на прысвятак абяцае добры ўраджай ільну на лета.

Па надвор’ю „ніводнаму Міколе не вер ніколі”. Шэрань у гэты дзень — да ўраджайнага году.

Зіма ўцякае цёмнымі начамі.
На Ганку сядайце на санкі.
Зіма ліха, а без зімы яшчэ горш.
Зіма цёплая — сіроцкая.
Зіма гультая марозіць.
Зіма не лета — у кажух адзета.
Сухі снежаць — сухія вясна і лета.

Зімою будуць частыя адлігі, жыта ўродзіць дрэнна.

Калі дым без ветру сцелецца да зямлі — чакай снегу.

Зашумеў лес у мароз — будзе адліга.

Сініцы раніцай падымуць піск — ноччу будзе мароз.

Калі на Міколу мароз — шукай сані, хавай воз.

Пад Новы год ноч зорная — на ягады будзе ўраджай.

У снежні марозы — зіма доўгая.

*Падборку зрабіў Янка Целушэцкі*

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову Музея. Ахвяраванні на пабудову Музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4 555. Ян Яцко (Гайнаўка) — 10 зл.
4 556. Мікалай Пракапюк (Сямяцічы) — 10 зл.
4 557. Ада Чачуга (Беласток) — 10 зл.
4 558. Яніна Чэрнякевіч (Беласток) — 10 зл.
4 559. Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім — 200 зл.
4 560. Гражына і Славамір Бароўскія (Беласток) — 20 зл.
4 561. Васіль Кардзюкевіч (Бельск-Падляшскі) — 20 зл.
4 562. Настаўнікі Сярэдняй школы ў Менску — 15 зл.
4 563. Аляксандр Бандарук (Гайнаўка) — 10 зл.
4 564. Аляксей Семянюк (Белавежа) — 10 зл.
4 565. Васіль Петручук (Беласток) — 10 зл.
4 566. Віталі Байгус (Беласток) — 7 зл.
4 567. Георгі Валкавыцкі (Беласток) — 10 зл.
4 568. Анджэй Волчак (Ляска) — 20 зл.
4 569. Міраслаў Навіцкі (Гайнаўка) — 6 зл.

**Дзякуем.**

Наш адрас: **Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.**




Астроне! Сніўся мне вельмі доўгі і вельмі рэальны сон — карабкалася я ўверх па высокай гары, такой высокай, што аж страшна было мне глянуць уніз. Абвальваўся пясок, я сягала рукамі ўсё вышэй і вышэй, мацала далонмі за выступы, пакуль не ўзлезла. А перада мною — раўніна, прыгожы краявід. Бадай, я буду змагацца з нейкімі цяжкасцямі.

**Міра**

І мне, Астроне, прысніўся падобны сон. Быццам бы хадзіў я па магазінах, а ўсюды быў такі балаган і поўна смецця. Мы хадзілі і як бы штосьці аглядалі. І раптам ужо сон павярнуўся ў другі бок. Бачу горы, але далёка-далёка. Я ведаю, што мушу туды дайсці. Іду-іду і ўрэшце дайшоў. І бачу велізарную, высокую гару. На самай яе вяршыні ў форме нейкага купала гарыць агонь. Па баках гары вельмі прыгожа. Здаецца, што я ўвайшоў на гару, якая была побач з тою. Глянуў я навокал, а кругом — велізарная прастора. Ці мой сон добры?

**Мікалай**

Міра! Твой сон гаворыць за тое, што ў тваім жыцці наступіць нялёгкі момант. Давядзецца табе змагацца з цяжкасцямі штодзённага жыцця, а ты, не зважаючы на гэта, будзеш ісці наперад. Так як і ў тваім сне: абвальваўся пясок, а ты сягала рукамі ўсё вышэй і вышэй, пакуль не ўзлезла наверх. Але сама бачыш, што ўсё ж такі ўдалося табе перамагчы тую высачэзную гару. І тады ты ўбачыла раўніну і прыгожы краявід. Значыць, і ў тваім жыцці ўсё ўстабілізуецца.

Мікалай! Твой сон даволі падобны на Мірын, з той аднак розніцай, што абазначае ён цалкам штосьці іншае. Ты спадзяваўся нейкіх перамен (балаган) у тваім жыцці, бо праследуюць цябе нейкія непрыемнасці і плёткі (смецце). Аднак жа мары твае не здзейсняцца, а пра гэта гаворыць той агонь, што гарэў на высокай гары. А, зрэшты, ты ж на яе фактычна не ўвайшоў, бо здалося табе, што стаяў на іншай гары побач. Агонь — дарэмныя мары.

**АСТРОН**

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. уласнік банка, 3. кароткая аповесць, 5. сталіца Турцыі, 7. сталіца Багамскіх астравоў, 9. адно з пяці знешніх пачуццяў чалавека, 10. рыцар крыжацкага ордэну, 11. бацька зяця, 12. не душа, 14. прылада для капання бульбы, 16. галаўны ўбор караля, 17. магнацкі род, з якога выводзілія вялікія гетманы літоўскія ў XVII стагоддзі.

**Вертыкальна:** 1. сельскагаспадарчая прылада з зубамі, 2. між Іракам і Афганістанам, 3. жыллё барсука, 4. лодар, гультай, 6. ударны музычны інструмент іспанцаў, 8. імя Яновіча, 9. непатрэбныя рэшткі, адкіды, 11. непасрэдны назіральнік здарэння, 13. возера ў Карэліі, 14. хлусня, 15. прылада для зрэзвання травы.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на віраванку з 43 н-ра: Бамбей, баркас, корпус, пальма, Байкал, мастак, аматар, кардон, доктар, Таймыр, марэна.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Рыгору Гайдуку** са Слубіц і **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх.

## Пад якім сузор’ем?

СТРАЛЕЦ, 23 лістапада — 23 снежня. Мужчына з-пад гэтага знака яшчэ больш імпульсіўны чым жанчына, нястрымны ў каханні, любіць свабоду і незалежнасць. Добра сужываецца з людзьмі з-пад знакаў Рыбы і Дзевы.

Жанчына, народжаная пад знакам Стральца, вельмі дзелавітая асоба, поўная тэмпераменту і фантазіі. З натуры мае ў сабе трохі ўпартасці і самаволі, аднак, нягледзячы на гэта, з’яўляецца добрай партнёркай і супрацоўніцай. Яе ўсе любяць, хоць часам адкрыта выказвае свае думкі аб асобных людзях і здарэннях.

Шчаслівы дзень — чацвер, месяц — чэрвень, колер — залаты, каштоўны камень — біруза, кветка — мак.

*(Апрац. яц)*





**“Niwa”**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: “ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові́ч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.**
Старшыня Праграмнай рады — Валянцін Сельвясюк

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1996 r. upływa 20 lutego 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,30 zł (13 000 st. zł), a kwartalnie — 16,90 złotych (169 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# НІЎКА

## Няроўны шлюб

Зінаіда Аляксееўна фыркнула. Сынавы словы не пераканалі яе. Усеўшыся на канапу яна абхапіла галаву рукамі.

— Ты безнадзейны, Уладзік! — уздыхнула Зінаіда Аляксееўна. — Зразумей, што яна табе не пара!

— Але чаму, мама?

— Божа мой літасцівы, ён яшчэ і пытаецца! Ды толькі падумай, хто ты і хто яна?

— Добрая дзяўчына...

— І гэта ўсё? — рэзка абарвала сына Зінаіда Аляксееўна. — Гэтага мала! — яшчэ больш сурова дадала.

— Яна закончыла інстытут...

— Божа, інстытут... Які подзвіг! Якое шчасце! — саркастычна прамовіла маці. — Дзе яна працуе?

— У доследным бюро.

— Кім?

— Малодшым навуковым супрацоўнікам.

— Я пра гэта і кажу, Уладзік! Сыночак, зразумей. Ой, сэрца... Дай мне валідол...

Уладзік дастаў з аптэчкі шкляную трубачку з таблеткамі і працягнуў маці.

— Малодшы навуковы супрацоўнік, — кладучы таблетку пад язык, зняважліва паўтарала яна.

— А зараз Люда працуе над дысертацыяй, — зрабіў, з яго пункту гледжання, казырны ход Уладзік.

— Расціла, называецца, сына. Для чаго? Не, не. Сіл маіх больш няма. Якая дысертацыя? Няўжо не зразумела, што яна табе не пара?

— Але чаму ж, мама? У яе і бацькі добрыя...

— Бацькі?.. — зацікавілася Зінаіда Аляксееўна...

— Ага. З вышэйшай адукацыяй.

— Што ты кажаш, — скрывілася маці.

— Так. Бацька працуе інжынерам на вялікім заводзе, а маці — настаўніца.

— Як гэта цудоўна! — Зінаіда Аляксееўна пабялела і заплюшчыла вочы. — Ну, зразумей жа ты, сыночак, што вы не пара. Цвяроза глянь на рэчы. Хто яна? Ніхто. А ты? На цябе ўвесь горад моліцца. Прыёмшчык шклатары!..

Шлюб сапраўды мог стаць няроўным.

**Ігар Лагаза**
*З украінскай пераклаў Валерый Бабей*

## СЕНТЭНЦЫІ

Арэшкам з'яўляецца тое,
чаго нельга раскусіць.
* * *
Тваё апірышча не паветра,
а сяброўскае плячо.
* * *
Калі ты знайшоў у кніжцы залатую
думку, ты перасунуў далягляд.
* * *
Тады ноч, калі вочы не бачаць.
* * *
Спадзявайся, калі маеш
на што спадзявацца.

**Барыс Руско**

Мал. Л. Разладава

## Грэх у хаце

Позняй восенню Манька пачала ставіць кросны, каб ткаць „пасякі". Цэўкі, ручкі і дошка былі на гары. Палезла за імі туды. Калі глянула ў куток, дзе ў торбачцы віселі цэўкі, убачыла шэрую галаву. Пералякалася. Мой Божа, думала, гэта напэўна грэх у нашай хаце аб'явіўся. Можа мой Аноп у маладосці прыстроіў нейкай дзяўчыне жывот, а пасля яе кінуў. А можа Уладзік або Барыс, будучы ў арміі, аставілі цяжарнымі свае нарачоныя. Гэта ўжо бяда. Паслаў Бог сюды галаву, каб пакараць нас.

З плачам злезла з гары, крыку нарабіла:

— Што вы нарабілі! На гары Бог галаву сатварыў, каб пакараць нас. Грэх напэўна ў хаце тоіцца. Можа ты, стары, будучы кавалерам, з дзеўкамі гуляў і з дзіцём якую пакінуў! А можа вы, паганыя, чаго нарабілі!

— Які грэх!? — крыкнуў Аноп. — Здурэла баба! Каб я быў такі да дзевак, дык і, будучы жанатым, таксама за бабамі ганяўся б.

— Мы ніякіх нарачоных не мелі, — адказалі сыны, — і жыватоў ім не прыстроілі.

— Тады чаму на гары галава вісіць? — спытала Манька.

Палезлі ўсе на гару. Глянулі хлопцы на тую галаву і зарагаталі:

— Мама, — сказаў Барыс, — гэта ж асінае гняздо. Тваё шчасце, што не прыйшла сюды летам, а то маглі б цябе закусаць насмерць.

— Вось дурная баба, — вылаяўся Аноп. — Век пражыла, а не ведае, як выглядае жыллё вос.

## Сабака і шчанюк

Міліцыйны патруль кантраляваў вадзіцеляў і самаходы. Стаяць міліцыянеры, правяраюць і нічога падазронага не ўдаецца ім выявіць. Урэшце старэйшы кажа малодшаму:

— Ідзі і прычапіся да таго, што вунь набліжаецца.

— Чаго? Ён едзе правільна...

— Абы-чаго! — строга загадаў старэйшы.

Малодшы пайшоў, але хутка вярнуўся.

— Што ён табе сказаў?

— Даў мне сто тысяч і сказаў: „Адчапіся, сабака, ад мяне".

— Сабака, гэта я, а ты яшчэ шчанюк! Вучыся! — сказаў старэйшы і забраў грошы.

**Аўрора**

## Смех у санаторыі
### або „Даўціпы" з альбома Андрэя Гаўрылюка

— Вы сёння прыйшлі на працу нябрытым; каб мне больш гэта не паўтаралася!..

— Я запускаю бараду...

— Гэтым займайцеся сабе дома.

* * *

У рэстаране Коля заказаў жур, бігас і дзве булачкі.

— Афіцыянт! — кліча. — Гэты булачкі мокрыя...

— Што ж я параджу, — адказвае афіцыянт, — калі чалавек у адной руцэ нясе талерку з журам, у другой — з бігасам ды яшчэ булкі пад пахамі, то хіба мае права спацець...

* * *

— Прашу мяне заўтра абудзіць далікатным пацалункам, — звяртаецца госць гатэля да прыгожай дзяўчыны ў прыёмнай.

— Добра, перадам вашу просьбу швейцару.

* * *

— Заўсёды абяцаеш мне падарункі, а ніколі іх не купляеш, — скардзіцца жонка мужу.

— У будучыні папраўлюся, — адказвае вінавата муж, — ніколі ўжо больш не буду табе нічога абяцаць.

* * *

Бацька да сына:

— Што сказаў сусед, калі ты яму пабіў мячом акно?

— Ці трэба мне выкінуць брыдкія словы?

— Натуральна.

— У такім выпадку ён нічога не сказаў.

* * *

— Выглядаеш адпачыўшым і задаволеным з жыцця; быў у водпуску?

— Я — не. Мой загадчык быў.

* * *

— Пазыч мне сто тысяч. Заўтра аддам.

— Не аддасі.

— Адкуль гэта ведаеш?

— Бо табе не пазычу.

* * *

У турэмнай капліцы капелан размаўляе са зняволеным:

— Калі выйдзеш на волю, буду хацець табе дапамагчы...

— Ксёндз у нічым мне не дапаможа: у маёй прафесіі патрэбная вялікая практыка.

* * *

У рэстаране сустракаюцца два знаёмыя:

— Вы, строгі вегетарыянец, ясце сён- ня мяса?

— Так, бо сёння ў мяне пост.

* * *

На дашлюбным абучэнні ксёндз пытае нарачонага:

— Ці верыш, сыну, што Пан Езус накарміў пяць тысяч галодных пяццю хлябамі?

— Што накарміў — у гэта веру, але што яны наеліся — у гэта не веру.




Дарагое Сэрцайка, не ведаю, ці нейкае зацьменне на мяне найшло, ці што. Узяў і, доўга не думаючы, ажаніўся з дзяўчынай, як толькі сказала яна, што зацяжарыла. Кахаў яе без памяці, а каханне, як ведаеш, пачуццё сляпое. Многія мне гаварылі, што кахаць — гэта яе спецыяльнасць і не быў я ў яе адзіны. Але ці ж такому дурню, як я, можна было штосьці растлумачыць?..

Час ляцеў хутка, і нарадзілася дзіцятка. Дачушка-прыгажуня, а чорненькая — як ніводнае з нас. Усе пачалі шушукацца, што не маё гэта дзіця, а аднойчы сябра растлумачыў мне, чыё яно можа быць ды найпраўдападобней і ёсць. Сапраўды, кандыдат на бацьку быў чорны, як вугаль. Вядома, я маю на думцы валасы, бо неграў я тады яшчэ не бачыў.

Я страціў спакой. Не хацеў нават глядзець на тое дзіця. Ну, але што зробіш, калі я кахаў гэтую выдру. Неўзабаве яна ізноў зацяжарыла. Нарадзілася другая дачушка. Ну, гэта ўжо была крыху на мяне падобная. Бландзіначка і вочы блакітныя. Неяк мы жылі і я памалу прывыкаў да дзяцей. Аднак жа душу вярэдзіла думка, што першая дачка не мая. Жонка мела да мяне прэтэнзіі, што займаюся толькі малодшай дачушкай, што старэйшую не заўважаю. Мне здавалася, што я да іх аднолькава, але праўда і тое, што да старэйшай мне ніколі не хацелася прытуліцца, узяць яе на рукі, пацалаваць. Не мог я саўладаць з сабою. Адносіны з жонкай усё пагаршаліся, бо яна, у сваю чаргу, пераконвала мяне, што гэта маё дзіця. Гаварыла, што я грашу Богу, бо з-за мяне дзіця стала нервовае, кепска есць, занадта маўклівае, слаба развіваецца. Ну, не мог я нічога зрабіць. Пасеялі людзі ў маёй душы няпэўнасць, і верыў я больш ім, чым жонцы.

Прайшоў нейкі час, і мне надарылася нагода выехаць за граніцу, каб зарабіць крыху граша. Мала-памалу я пачаў адвыкаць ад сваёй сямейкі. На трэцім годзе сваёго побыту за мяжой я пазнаёміўся з цудоўнай дзяўчынай, з якой пачаў жыць. Нарадзілася ў нас дзіця, і я адчуваю сябе шчаслівым. Часамі толькі прыходзіць мне ў галаву, да якой ступені чалавек можа здурнець. Навошта мне была патрэбная тая, што цягалася з рознымі хлопцамі, калі я адразу мог знайсці і ўзяць за жонку чыстую, добрую дзяўчыну...

Я зусім перастаў думаць пра жонку, і, вядома, паведаміў ёй аб тым, як маюцца мае справы. Пасылаў ёй грошы, каб не зазнала бяды, але вяртацца дахаты не збіраўся. Нават ужо мы купілі домік. Не хачу вяртацца да няверной жонкі. Але не магу сказаць, што лёс маёй дачушкі, якая засталася дома, мне абыякавы. Я вельмі хацеў бы, каб яна прыехала да мяне і пабыла прынамсі пару месяцаў на летніх канікулах. І тут вынікла справа, якая не дае мне спакою.

Малая паставіла справу цвёрда: прыедзе, калі я запрашу і старэйшую „дачку". Напэўна, нацкавала яе маці, бо няўжо ж дванаццацігадоваму дзіцяці прыйшло б такое ў галаву?! Як нейкая маньячка, да сёння старацца мяне пераканаць, што старэйшая дачка — таксама маё дзіця. Магла б ужо супакоіцца, грошы ж на жыццё я ёй даю. Што рабіць, не ведаю, чаму яна так уперлася. А што ты думаеш, Сэрцайка, ці варта запрасіць да сябе двое дзяцей?

**Міраслаў**

Міраслаў! А чаму гэта ты так уперся, што ваша першае дзіця — не тваё?! Мо вы рабілі нейкія аналізы, кажуць жа, што людзі ездзяць у Кракаў, і тады ўсё ўжо вядома... А можа ты абапіраешся ўсяго на плёткі і здагадкі? „Зычлівых" сяброў і сяброўак у такіх выпадках знойдзецца нямала. Што ж можа даць радасць нешчасліваму чалавеку, як не праблема бліжняга! Супакоіць яго гэта на нейкі час, упэўніць у тым, што іншым яшчэ горш. Ты адразу паслухаў і пачаў прыглядацца да дзіцяці. А з гэтымі генамі, сам ведаеш, як бывае. Можа дзе хто і чорны ў вашай сям'і калісьці быў.

Думаю, што жонка твая гаворыць праўду. Калі б было інакш, пэўна, бацька дзіцяці, які жыве, бадай, непадалёк, ужо б даўно агукнуўся.

Ты са спакойным сумленнем заснаваў сабе новую сям'ю і разграшыў сябе ва ўсім. Запрасі прынамсі двое дзяцей, то і на тваёй душы будзе спакайней.

**Сэрцайка**